НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 5 (746) 8 лютага 2012 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕ[illegible]

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у [illegible]



## Што падарыць каханаму 14 лютага?

Топ-7 ідэяў для падарункаў на Дзень святога Валянціна. Старонка 8.

# Лукашэнка просіць Расію фінансаваць беларускіх вайскоўцаў

«**Я накіраваў ліст Мядзведзеву** аб неабходнасці пошуку для беларускіх вайскоўцаў дадатковых сродкаў…». **Старонка 2.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Тэндэнцыі**

## Ліхавід: «Апазіцыйныя лідары марнуюць час у мітусні паміж сабой»

«Наш **канфлікт з Халіп** — сведчанне велізарнага разрыву паміж апазіцыйнай вярхушкай і звычайнымі грамадзянамі».

«На жаль, склалася парадаксальная сітуацыя. З аднаго боку, людзі, якія хочуць свабоды для Беларусі, пастаянна гавораць, што ў краіне не павінна быць цэнзуры, у краіне павінен быць плюралізм меркаванняў, мы павінны прыслухоўвацца адно да аднаго.

Але ў той жа час некаторыя з гэтых людзей не цярпяць альтэрнатыўнага меркавання, якое не супадае з іх думкай. На жаль, Ірыне Уладзіміраўне Халіп не спадабалася тое, што я сказаў у інтэрв'ю радыё «Свабода» [пра Андрэя Саннікава — «НН»], яна перайшла на асобы і дазволіла сабе лішняе.

Жонка былога кандыдата ў прэзідэнты Саннікава пазіцыянуе сябе як палітык і прадстаўляе яго інтарэсы, пакуль ён знаходзіцца ў турме, на мой погляд, не магла ў такой форме выказваць сваё абурэнне маім выказваннем, калі яно так яе закранула.

**Працяг на старонцы 4.**

**Палітыка**

### Санкцыі: пашыраць ці звужаць?

Прапанова Стужынскай аб скарачэнні спісу неўязных выклікала скандал. **Старонка 3.**



**Тэма**

### Якія замкі збіраюцца рэстаўраваць?

Урад зацвердзіў праграму «Замкі Беларусі». **Старонка 9.**



**Гутарка**

### «Нельга расстраляць чалавека, які прамаўчаў увесь суд»

Святлана Алексіевіч пра прысуд па справе тэракту. **Старонка 11.**



**Гісторыя**

### А дзе ж тады Беларусь?

На актуальнае гістарычнае пытанне піша Алег Латышонак. **Старонка 13.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Лукашэнка просіць Расію фінансаваць беларускіх вайскоўцаў

«Я накіраваў ліст Мядзведзеву аб неабходнасці пошуку для беларускіх вайскоўцаў дадатковых сродкаў…»

Аляксандр Лукашэнка 6 лютага прыняў з дакладам дзяржсакратара Рады бяспекі Леаніда Мальцава і міністра абароны Юрыя Жадобіна.

«Мяне цікавіць сітуацыя ва Узброеных Сілах, мадэрнізацыя арміі, колькасці ў тым ліку, пытанні фінансавання. Другі напрамак, які нам неабходна абмеркаваць, — кадры, грашовае забеспячэнне. І самае галоўнае пытанне — будаўніцтва жылля для вайскоўцаў. Мы дамаўляліся аб выпрацоўцы пэўнага алгарытму ў гэтым пытанні, — сказаў Лукашэнка. — У сувязі з гэтым у нас ёсць дамоўленасць з прэзідэнтам Расіі. Я яму накіраваў ліст аб неабходнасці пошуку для беларускіх вайскоўцаў дадатковых сродкаў за кошт розных напрамкаў супрацоўніцтва Беларусі і Расіі. І ён паабяцаў дапамагчы ў гэтым плане», — цытуе яго агенцтва БелТА.

Як адзначыў Лукашэнка, у дзвюх краін практычна супольная армія і задачы, якія стаяць перад ёй. Але памер грашовага забеспячэння ваенных Беларусі і Расіі адрозніваецца. Такое становішча мае быць зменена, запатрабаваў ён.

Але чыя будзе армія, калі яе будзе карміць Масква?

**Мікола Бугай**

**«Прапановы Акадэміі навук не вытрымліваюць крытыкі»**

Акадэмію навук трэба рэарганізаваць, фінансаванне яе будзе скарачацца. Аб гэтым заявіў Аляксандр Лукашэнка на цырымоніі ўручэння дыпломаў доктара навук і атэстатаў прафесара.

Паводле яго слоў, «менавіта такая задача пастаўлена перад урадам і Акадэміяй навук. Але тыя прапановы, якія імі ўнесены, пакуль крытыкі не вытрымліваюць. Відавочная спроба падмяніць карэнную мадэрнізацыю касметычным рамонтам».

Лукашэнка канстатаваў, што цяпер у Беларусі існуе тая структура навуковай сферы, якая захавалася яшчэ з савецкіх часоў. «Але наколькі апраўдана яе існаванне і ў сучасных умовах? Магчыма, будзе больш мэтазгодна пайсці па шляху тых дзяржаў, дзе даследаванні сканцэнтраваны ва ўніверсітэтах, на прадпрыемствах і даюць рэальны эфект», — адзначыў Лукашэнка.

«Стымуляваць Акадэмію навук, у цэлым навуку ў Беларусі да рэформ мы будзем найбольш эфектыўным спосабам — рублём, скарачаючы бюджэтныя фінансаванні і адначасова патрабуючы павышэння яе аддачы».

Адначасова Лукашэнка адзначыў: «Гуманітары не даюць рады задачы сур’ёзнага навуковага суправаджэння ідэалогіі і работы з насельніцтвам».

**Паводле БелТА**

**Фотафакт**

## У Заслаўі піраміду Маўродзі рэкламуе чорны лімузін

Некалькі дзён таму невядомыя кінулі аўто пад вокнамі мясцовай кавярні.




СЯМЁН ПЕЧАНКО

У Заслаўі каля кавярні «Авеню» на вуліцы Савецкай некалькі дзён стаіць вялікі чорны лімузін. На баку аўто ў некалькіх месцах нанесены надпіс з адрасам сайта чарговай фінансавай піраміды сумнавядомага Сяргея Маўродзі. Нумары ў аўто транзітныя.

У адміністрацыі кавярні карэспандэнту «НН» паведамілі, што не маюць дачынення да лімузіна: «Хтосьці прыпаркаваў машыну ў нас пад вокнамі некалькі дзён таму. З таго часу аўто ніхто не забіраў. Мы не ведаем, хто ўласнік аўто і куды ён падзеўся».

Нагадаем, што пры канцы мінулага года ў Баранавічах з’явіўся білборд з рэкламай МММ. Яго замовіў адзін з удзельнікаў піраміды, пры гэтым ён не атрымаў адпаведнага дазволу.

Адроджаная Сяргеем Маўродзі піраміда пачала дзейнічаць у студзені 2011 года. Новае дзецішча ён назваў у духу эпохі — фінансавай сацыяльнай сеткай. Ахвярамі першай фінансавай піраміды МММ сталі ад 10 да 15 мільёнаў чалавек, памер нанесенай шкоды па розных ацэнках налічвае ад $100 мільёнаў да $80 мільярдаў.

Новая піраміда таксама аказалася прыцягальнай для аматараў хуткіх грошай. У кастрычніку 2011 года ў «МММ-2011» уступілі 70 тысяч беларусаў.

**Сямён Печанко**



**Трохі лірыкі**

88-гадовая нобелеўская лаўрэатка Віслава Шымборска памерла ў сваёй хаце ў Кракаве, памерла ў сне. Вось жартаўлівая самаэпітафія, якую яна напісала, у перакладзе Марыі Мартысевіч.

**Віслава Шымборска. Надмагілле**

Спачыў тут, архаічны, як цэзура,
труп — злёгку паэтычная натура.
Зямля ёй пухам, хоць да смерці муза
не стала сябрам аніводнага саюза.
Вось і пліта над ёю: снег, трава,
чатыры пары рыфмаў і сава.
Мінак-юнак, разархівіруй памяць
і памяні Шымборску ў гэту замець.

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

## Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перakazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад’езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

### Сцісла

**Старыя дарогі**

«Калі магістральныя дарогі яшчэ больш-менш у нармальным стане, то рэспубліканскія, якія не з’яўляюцца магістральнымі і злучаюць абласныя гарады з раённымі цэнтрамі, ужо ў стане, блізкім да крытычнага», — сказаў Аляксандр Галаўнёў, начальнік упраўлення ўтрымання дарожнай сеткі дэпартамента «Белаўтадар» Міністэрства транспарту і камунікацый. Гэта звязана з тым, што на такіх дарогах ужо 20–30 гадоў фактычна не рабіўся рамонт, акрамя ямачнага.

**Толькі вякні!**

Прадстаўнік Расіі ў ААН Віталій Чуркін у грубай форме адрэагаваў на рэпліку свайго калегі з Катара падчас абмеркавання рэзалюцыі па Сірыі. Як паведамляе алжырскі інтэрнэт-партал Algeria ISP, перад галасаваннем у Радзе Бяспекі ААН міністр замежных спраў Катара сказаў Чуркіну: «Я папярэджваю Расію, што калі яна не ўстрымаецца ад вета, яна згубіць усе арабскія краіны».

«Яшчэ раз вякні нешта ў такім тоне, і твой Катар не дажыве да заўтра», — цытуе прэса адказ дыпламата Чуркіна.

**Полудзень застаецца пад вартай**

Тэрмін расследавання крымінальнай справы ў дачыненні да былога намесніка міністра ўнутраных спраў Яўгена Полудня і тэрмін утрымання абвінавачанага пад вартай працягнуты да 6 чэрвеня. Аб гэтым паведаміў начальнік аддзела інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта Павел Траулька. Полудня абвінавачваюць у злоўжыванні ўладай.

**«Людзі на балоце» ў Купалаўскім**

Прэм’ера спектакля ў пастаноўцы Аляксандра Гарцуева адбудзецца 16 сакавіка на сцэне Палаца культуры прафсаюзаў. У аснову спектакля пакладзены кнігі Івана Мележа.

**Сярэдні заробак футбаліста ў Беларусі — 2 500 даляраў**

Сярэдні заробак беларускага футбаліста складае 2,5 тыс. даляраў у месяц, піша football.by. Сайт зазначае, што сярэдні заробак у краіне складае 342 даляры, а розніца ў заробках між сярэднім і футбольным складае 7,6 разу. У Польшчы сярэдні заробак футбаліста складае 4–5 тыс. даляраў, у той час як сярэдні заробак па краіне — 1 200 даляраў (каэфіцыент — 4,2).

**СГ**

### Самае чытанае ад 1 да 7 лютага

1 «Саня, ты наступны!» + фота
2 Дзве вусцішна марозныя ночы: прагноз ізноў пагоршаў
3 Пікіроўка паміж Халіп і Ліхавідам
4 Масква: мітынг і антымітынг
5 Былы вядучы БТ: «Было пачуццё, што нам ніхто і нічога не можа забараніць»
6 Вядучая СТВ дазволіла памацаць свае грудзі падчас эфіру
7 Меню сталоўкі Нацбанка. Фотафакт
8 Лукашэнкаўцы хочуць знішчыць БАЖ?
9 Правілы жыцця Вікторыі Азаранка
10 У Шабанах да смерці замерз 17-гадовы хлопец

# Санкцыі: пашыраць ці звужаць?

**Прапанова Стужынскай аб скарачэнні спісу неўязных выклікала скандал.**

23 студзеня Рада Еўрасаюза прыняла палавіністае рашэнне: былі пашыраныя крытэры выкарыстання персанальных санкцый у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў. Спіс не павялічыўся, але павялічылася імавернасць, што ён будзе працягваць расці. Прынамсі, называлася лічба ў 135 чалавек.

На сёння спіс неўязных на тэрыторыю ЕС складае больш за 200 персон: гэта і вышэйшае чынавенства, рэктары ўніверсітэтаў, сілавікі, пракуроры, суддзі, старшыні выбарчых камісій. Упершыню спіс быў складзены пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 (да гэтага ў ім былі падазраваныя ў выкраданнях людзей і Лідзія Ярмошына).

Аднак на хвалі лібералізацыі 2008-2010 працэс візавых санкцый быў замарожаны. Гэта ўспрымалася як заахвочванне Беларусі да дэмакратычных пераменаў.

У дзень прэзідэнцкіх выбараў-2010 еўрапейцы прызналі, што лібералізацыя толькі пыл у вочы. Санкцыі вярнулі.

Пра эфектыўнасць візавых абмежаванняў горача загаварылі пасля візіту міністра ўнутраных справаў Анатоля Куляшова ў Францыю. Як выявілася, абмежаванні можна лёгка абыходзіць. Першым голас за адмену санкцый падаў палітолаг Дзяніс Мельянцоў, які выказаў думку, што супрацоўніцтва ЕС з Беларуссю было нашмат больш эфектыўным, чым спроба гаварыць сілай («НН» №3).

**Еўрапейскі дыпламат сказаў нам, што не існуе іншага шляху, як размаўляць з беларускімі ўладамі**

Тым не менш, той артыкул не выклікаў такой рэакцыі, як ініцыятыва «Офіса за дэмакратычную Беларусь» (Брусэль), што ўзначальвае Вольга Стужынская.

Пазіцыя Стужынскай заключаецца ў тым, што далейшыя санкцыі толькі ўзмоцняць ціск на палітвязняў і грамадзянскую супольнасць. Дыялог жа будзе перашкаджаць узмацненню залежнасці Беларусі ад Расіі.

Рыхтаваўся зварот да еўрапейскіх структур з мэтай перагляду спісаў. У першую чаргу прапаноўвалася выкрасліць бізнэсоўцаў, выкладчыкаў і журналістаў. Маўляў, некаторыя, як Ганна Шадрына з «Советской Белоруссии» ці Зімоўскі з БТ, ужо «дэзерціравалі», то бок сышлі з пасады.

Час для заявы быў абраны не самы ўдалы. У турмах невядома што робіцца з Саннікавым, Дашкевічам, узмацняюць меры стрымання Аўтуховічу і Статкевічу, а з Бандарэнкі выбіваюць прашэнне аб памілаванні. Натуральна, што сваякі і сябры палітвязняў назвалі такую ініцыятыву цынічнай.

Асабліва жорсткую пазіцыю занялі «Хартыя-97» і кіраўнік «Свабоднага тэатра» Мікалай Халезін. Апошні называе прозвішчы кіраўніка BISS Пікуліка, выдаўца Марцава як людзей, што падтрымалі зварот.

Калі верыць складальнікам звароту да еўраструктураў, то ліст так і не быў дасланы адрасатам. Тым не менш, погляды, якія рэтранслявала Стужынская, сапраўды існуюць сярод еўрапейскіх чыноўнікаў. Мы мелі размову з адным еўрапейскім дыпламатам, які казаў, што не існуе іншага шляху, як размаўляць з беларускімі ўладамі.

Вялікія дыскусіі выклікала таксама асоба бізнэсмена Уладзіміра Пефціева. Палітыкэмігрант Алесь Міхалевіч нават напісаў, што магнат абяцаў мільён даляраў таму, хто дапаможа выкрасліць яго са спісаў неўязных. Стужынская заступаецца за Пефціева: «Рэжым спансаруюць сотні, а ў спісе адзін Пефціеў».

Апытанне на сайце nn.by паказала, што большасць чытачоў (73,8%) выступае за ўзмацненне санкцый. І толькі 7,1% лічаць, што санкцыі трэба здымаць, бо лукашэнкаўцаў так не праб'еш. Усяго 3,5% не бачаць падстаў для санкцый. У апытанні ўзяло ўдзел 2293 чалавекі.

**Зміцер Панкавец**

# Стужынская: Я не ведаю спадара Пефціева



Кіраўнічка брусэльскага «Офіса за дэмакратычную Беларусь» Вольга Стужынская ў панядзелак і аўторак была ў Мінску, у маленькім офісе на вуліцы Платонава, што блізка плошчы Якуба Коласа. Там яна і адказала на нашы пытанні.

**«Наша Ніва»: Адкуль узялася гэтая ініцыятыва?**

**Вольга Стужынская:** Гэтая ідэя не новая. Сярод міжнародных экспертаў размовы пра перагляд спісаў вяліся і раней. Гэта высновы снежаньскай брусэльскай канферэнцыі, што Еўрасаюз не павінен сысці да палітыкі ізаляцыі ў дачыненні да Беларусі. Санкцыі нядзейныя. Развіццё ізаляцыі будзе толькі падштурхоўваць да Расіі. У насу краіне проста нейкая нястача інфармацыі, калі пра такія тэндэнцыі ніхто не чуў.

**«НН»: Гэта Ваша самастойная ідэя ці яе падказалі ў еўраструктурах?**

**ВС:** Гэта была ініцыятыва некалькіх экспертных сустрэчаў. Але пайшло невядома што: Рымашэўскі сказаў, што Офіс чорт ведае што лабіруе. Потым была хваля бруду ад Халезіна. І вось пад такім соўсам гэтую ідэю падалі ў медыйную прастору. Я згодна, што такія рэчы павінны прымацца з шырокімі кансультацыямі грамадскасці. Але да гэтага проста не дайшло! Я хачу падкрэсліць, што гэта толькі ідэя, а не нейкая змова. Гэта ўзровень нармальных кансультацый. Не трэба рабіць з мухі слана.

**«НН»: Вы чакалі такой жорсткай рэакцыі?**

**ВС:** Не. Пры адсутнасці альтэрнатывы любыя прапановы павінны разглядацца. Цяпер чуецца шмат крытыкі, бруду, але няма ніякіх прапановаў.

Мы замкнуліся ў коле «санкцыі — рэпрэсіі», больш не ведаем, дзе пачатак, дзе канец. Дапамагчы палітвязням, мне здаецца, можна толькі спробай выйсці з сітуацыі, якая ўсё горшае.

**«НН»: Прадстаўнікі ўлады пасля гэтай заявы не выходзілі на сувязь?**

**ВС:** Не. Усё гэта байкі, што мы неяк звязаныя. Ні я, ні мае калегі не ведаем спадара Пефціева ці некага з ягонага атачэння.

**Гутарыў ЗП**

# Хочуць знішчыць БАЖ?

БТ прысвяціла Асацыяцыі журналістаў **«аналітычны» матэрыял.**

Рэпартаж меў на мэце дыскрэдытацыю кіраўніцтва арганізацыі. Такія матэрыялы не з'яўляюцца на дзяржаўным ТБ выпадкова.

Дэманстраваліся зробленыя схаванай камерай кадры, выкарыстоўваліся іншыя прыёмы ў жанры «жалезам па шкле». У мінулым такія перадачы звычайна папярэднічалі пагромам: «Вясны», інтэрнэтсайтаў. Аналагічна лілі бруд, напрыклад, на праваабаронцу Алеся Бяляцкага.

БАЖ не кантралюецца дзяржавай. Гэта адна з нямногіх такіх структур. Таму знішчэнне БАЖа стала б вялікім ударам па незалежным грамадстве, якое і без таго ўжо пастаўленае ў рабскую залежнасць ад дзяржавы і яе прыхамацяў.

Старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна пракаментавала рэпартаж на БТ.

«Тут можна адсачыць лагічны ланцужок. Першая і самая магутная хваля дыскрэдытацыі прыпала на палітычную апазіцыю. Другая хваля — на праваабаронцаў. Незалежная журналістыка і БАЖ лагічна трапляе ў гэты эпіцэнтр ціску. І цяпер гэта вылілася ў маштабнае цкаванне ўсёй арганізацыі.

У набліжэнні чарговай выбарчай кампаніі журналістаў зноў хочуць прымусіць маўчаць. Той, хто замаўляў такога кшталту відэаматэрыял, магчыма, хоча, каб кіраўніцтва арганізацыі распачало самаліквідацыю. А пасля гэтага, відаць, будуць развязаныя рукі і да іншых дзеянняў.

Маючы досвед працы ў Дзяржтэлерадыё (радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная»), я помню часы, калі супрацоўнікі Белтэлерадыёкампаніі атрымлівалі дзясяткамі міжнародныя прэміі за прафесіяналізм. А пасля «прэм'еры тыдня» для мяне абсалютна зразумела, што журналістыка як прафесія сышла з БТ».

**Мікола Бугай**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ)** парасонавая арганізацыя незалежных рэпарцёраў. Яна выконвае функцыі прафсаюза. Дзякуючы ёй журналісты маюць абарону і дапамогу. Вялікая роля БАЖа і для беларускай культуры: і кіраўніцтва БАЖа, і яго выданні трымаюцца беларускай мовы.

Арганізацыя была заснавана ў 1995. БАЖ — асацыяваны сябар Міжнароднай федэрацыі журналістаў (IFJ). У 2003 Сусветная асацыяцыя газет (WAN) узнагародзіла БАЖ «Залатым пяром свабоды» (Golden Pen of Freedom prize). У снежні 2004 Еўрапейскі парламент уганараваў БАЖ прэміяй імя Сахарава «За свабоду думкі».

# Ніводнага голасу Пуціну

Масква: **мітынг і антымітынг.**

У Расіі не спыняюцца акцыі пратэсту. 4 лютага, роўна за месяц да прэзідэнцкіх выбараў, апазіцыя і ўлада збіралі сваіх прыхільнікаў.

Не спалохаў удзельнікаў і вялікі мароз. Хоць і ўнёс пэўныя карэктывы ў планы. Шэсце пачалося на паўгадзіны раней запланаванага, каб не мерзнуць.

На Балотнай плошчы, паводле паліцыі, было 40 тысяч чалавек, арганізатары ж называюць лічбу 120 тысяч чалавек. Цікава, што арганізатары контрмітынгу за










**Для часткі расійскай апазіцыі — Лукашэнка кумір. Для іншых — узор тырана.**

Пуціна называлі большую лічбу. Хоць на справе што мітынг апазіцыі, што пуцінскі сабралі прыкладна роўную колькасць.

З кандыдатаў у прэзідэнты на мітынг прыйшоў толькі алігарх Прохараў, але ўдзельнікі сустрэлі яго не ветліва. Тым часам лідар новай расійскай апазіцыі блогер Аляксей Навальны змог дамовіцца з камуністамі Зюганава, каб яго людзі мелі пры назіранні пасведчанні КПРФ.

Узгодненая рэзалюцыя мітынгу на Балотнай складаецца з пяці пунктаў: патрабаванне вызвалення палітычных зняволеных, неадкладнага правядзення палітычнай рэформы, адстаўкі кіраўніка ЦВК Уладзіміра Чурава, адмены вынікаў выбараў у Дзярждуму і правядзення новых выбараў. Гэтая рэзалюцыя 24 снежня была дапоўнена заклікамі на выбарах 4 сакавіка «не аддаць ніводнага голасу Пуціну» і запісвацца ў назіральнікі.

Праваахоўныя органы не чынілі дэманстрантам ніякіх перашкод. Таму на акцыі зноў было багата самых розных плакатаў, расцяжак, друкаванай прадукцыі. У тым ліку і на беларускую тэматыку.

Наступная акцыя запланаваная на 26 лютага, за тыдзень да выбараў.

**ЗП**

## Сімвалам байкоту будзе кот

Віктар Івашкевіч з «Еўрапейскай Беларусі» заявіў **пра пачатак кампаніі** байкоту парламенцкіх выбараў.

Палітык сказаў, што днямі ўжо ў пятнаццаці гарадах Беларусі пачнецца праца па распаўсюджванні матэрыялаў кампаніі «Байкот», запрацуе адмысловы сайт.

Да кампаніі далучыліся, апроч «Еўрапейскай Беларусі», незалежны прафсаюз РЭП, а таксама Рада інтэлігенцыі. Таксама за байкот выступае Хрысціянская дэмакратыя. Зянон Пазняк, хоць і не супрацоўнічае з арганізатарамі кампаніі, таксама аддаўна выступае за байкот любых выбараў, пакуль кіруе Лукашэнка.

Партыйная апазіцыя мяркуе ўжыць тактыку абмежаванага ўдзелу. Вылучыць кандыдатаў, каб выкарыстаць магчымасці для агітацыі, а пасля зняць іх за некалькі тыдняў да выбараў.

Дарэчы, сімвалам кампаніі «байкотаўцы» абралі ката.

**Кастусь Матушыч**



PHOTO BYMEDIA.NET

## Ліхавід: «Апазіцыйныя лідары марнуюць час у мітусні паміж сабой»

**Працяг са старонкі 1.**

Калі мы не падзяляем пазіцыю іншага, мы павінны канструктыўна пра гэта казаць, а не пераходзіць на асобы, абразы. Мы цывілізаваныя людзі. Гэта маглі быць эмоцыі, але ж гэта было напісана, значыць, над заявай думалі, асэнсоўвалі напісанае.

Увогуле я лічу, што наш канфлікт з Ірынай — канчатковае сведчанне велізарнага разрыву паміж апазіцыйнай вярхушкай (калі можна так сказаць) і звычайнымі грамадзянамі апазіцыйных поглядаў.

Я ішоў на Плошчу не на заклік нейкіх людзей, я ішоў туды з поклічу сэрца, гэта было неабходна мне, маім блізкім, маёй краіне. Так, і на Плошчу я зноў пайду, бо я ведаю, што па-іншаму нельга, гэта адзінае выйсце, гэта адзіная магчымасць сказаць, што мы не хочам так болей жыць.

Апазіцыйныя лідары марнуюць час у гэтай мітусні паміж сабой, якая не набліжае нас да канчатковай мэты», — сказаў Мікіта Ліхавід у інтэрв'ю радыё «Свабода».

Перад гэтым у інтэрнэце разгарэлася паленіка вакол выказванняў Ірыны Халіп пра Мікіту Ліхавіда і Дзмітрыя Уса. Журналістка прайшлася па іх у абразлівай манеры, бо мужчыны асудзілі тое, што Саннікаў падпісаў прашэнне аб памілаванні.



## «Дзе вы знойдзеце ідыётаў за мяжой?»

Юрый Чыж пераканаы, што **знайсці спонсара** на беларускі спорт цяжка.

Лёгкім скандалам скончылася пасяджэнне прэзідыума Беларускай федэрацыі футбола. Мінскі «Партызан» так і не знайшоў грошай, каб заявіцца на першынства краіны. Наступны чэмпіянат пройдзе ў абрэзаным выглядзе — 11 каманд.

Гісторыя з «Партызанам» заключаецца ў тым, што перад гэтым сезонам літоўскі магнат Уладзімір Раманаў, уласнік каманды, адмовіўся яе спансараваць. Свою матывацыю пры гэтым ён не тлумачыў — проста страціў інтарэс да футболу. Апроч «Партызана» ён валодае літоўскім «Каўнасам» і шатландскім «Хартсам».

Генеральны дырэктар «Партызана», беларус з літоўскімі каранямі Людас Румбуціс пачаў пошукі новага мецэната. Кіраўнікі клуба звярталіся да «Газпрама» з просьбай аб грашовай дапамозе. Аднак нешта не зраслося.

Потым дапамогу на паўгода абяцаў Мінгарвыканкам, але і там нічога не ўдалося. Румбуціс нервова шукаў новых спонсараў, але паўсюль сутыкаўся з адмовай.

Урэшце «Партызан» так і не змог падаць неабходныя дакументы для рэгістрацыі. Пытанне з «банкрутам» асабліва ніхто разглядаць не хацеў, хоць Румбуціс і прасіў два тыдні адтэрміноўкі.

«Хто вам дасць час? Дзе вы за два тыдні знойдзеце ідыётаў за мяжой фінансаваць падобнае ў Беларусі?» — рэзка пытаўся ў Румбуціса Чыж.

У наступным сезоне ФК «Партызан» у вышэйшай лізе не будзе. І пад вялікім пытаннем, ці будзе існаваць гэты клуб увогуле.

Мы папрасілі пракаментаваць сітуацыю Людаса Румбуціса, але той адмовіўся. «Давайце праз тыдзень. Пакуль ні з кім не хачу размаўляць».

Гэта ўжо не першы выпадак, калі прыватныя каманды распадаюцца праз пару гадоў пасля заснавання. Так было з «Дарыдай» «мінеральнага» бізнэсоўца Уладзіміра Дзялендзіка, з магілёўскім «Савітам», які ўтрымліваў Віталь Ніс (займаецца продажам садавіны і гародніны).

У 1990-я ці не палова каманд вышэйшай лігі належыла бізнэсмену Яўгену Хвастовічу («Дынама» Мінск, «Дынама-93», «Атака-Аўра», «Маладзечна»). Аднак потым ён вырашыў з'ехаць за мяжу. Пры гэтым не надта дбаючы пра лёс сваіх каманд.

Толькі праз умяшанне Лукашэнкі ўдалося захаваць мінскае «Дынама», якое было аддадзенае на ўтрыманне Юрыю Чыжу.

Пакуль што футбол у нашай краіне не з'яўляецца прыбытковым бізнэсам. На самаакупнасць за апошнія сезоны змог выйсці толькі барысаўскі БАТЭ. Астатнія ж клубы замацаваныя за буйнымі прадпрыемствамі ці аблвыканкамамі, што аказваюць ім спонсарскую дапамогу без надзеі на вяртанне.

**Зміцер Панкавец**

# Каму належыць рынак сувязі?

**Парушыць манаполію «Белтэлекама» ўдаецца толькі мабільным аператарам.**

У Беларусі працуе каля сарака кампаній, якія даюць доступ у інтэрнэт, але большасць з іх – дробныя правайдары, спіс абанентаў якіх не налічвае і некалькі тысяч чалавек. Сярод іх шмат былых лакальных камп'ютарных сетак. Некаторыя з іх пасля прымусовай легалізацыі пераўтварыліся ў акцыянерныя таварыствы, іншыя далучыліся да мацнейшых суседзяў. Ёсць і зусім экзатычныя правайдары, напрыклад, Галоўнае гаспадарчае ўпраўленне Кіраўніцтва справамі прэзідэнта (Belisp).

Паводле падлікаў Міністэрства сувязі, абаненцкая база шырокапалоснага доступу да інтэрнэту перавышае 2 мільёны чалавек. Мабільным інтэрнэтам тым часам карыстаюцца каля 1,8 мільёна беларусаў. Апошняя лічба пастаянна расце і можа неўзабаве зраўняцца з першай.

Мабільныя аператары ўсяго чатыры, і новых гульцоў чакаць на рынку не варта. А вось сярод астатніх правайдараў большая разнастайнасць. Кожны можа выбрацца для сябе, каму плаціць грошы за інтэрнэт — дзяржаве, прыватніку ці замежнікам.

«Наша Ніва» расказвае пра ўласнікаў пяці найбольш папулярных кампаній, якія даюць шырокапалосны доступ да інтэрнэту.

высокоскоростной интернет byfly

### 1. ByFly («Белтэлекам»)

Акцыянер — Фонд дзяржаўнай маёмасці Беларусі.

Самы прыбытковы і самы папулярны правайдар краіны не страчвае лідарства. «Белтэлекам», у адрозненне ад канкурэнтаў, фактычна не мае ўнутраных рэсурсаў, але дазваляе падключыцца да неабмежаванага інтэрнэту ледзь не ў кожным пункце краіны. Гэтага хапае, каб мець больш за 1,15 мільёна абанентаў. Доля «Белтэлекама» ў сталіцы складае каля 40%, але ў рэгіёнах становішча манапаліста звыштрывалае.

Нягледзячы на пастаянныя прэтэнзіі з боку канкурэнтаў, правайдар нарошчвае кліенцкую базу. Балансавы кошт нацыянальнага аператара ацэньваецца дзяржавай у $2 мільярды. Фармальна манаполія «Белтэлекама» мусіла знікнуць з 1 студзеня 2012 года, калі запрацаваў Нацыянальны цэнтр абмену трафікам, які мусіў размяркоўваць інтэрнэт-канал. Аднак сітуацыя не змянілася дагэтуль.

Шпаркі Дамавік www.shparki.damavik.by

### 2. «Атлант-Тэлекам» («Альтэрнатыўная лічбавая сетка»)

Акцыянеры — «Зубр Капітал» (Алег Хусаенаў), Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця.

Найбуйнейшы прыватны правайдар можа пахваліцца прыблізна 170 тысячамі абанентаў. Траціна з іх была здабытая некалькі дзён таму, калі акцыянеры холдынгу купілі 100% акцый кампаніі «Сола». Пакуль правайдар працуе толькі ў абласных цэнтрах. Прыемна, што фізічным асобам даецца інтэрнэт пад беларускамоўным брэндам «Шпаркі Дамавік».

«Альтэрнатыўнай лічбавай сеткай» кіруе інвестыцыйная кампанія «Зубр Капітал» на чале з беларуска-расійскім мільянерам Алегам Хусаенавым, які вядомы перадусім праз свой аўтамабільны бізнэс — кампанію «Атлант-М».

Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця валодае 35% акцый холдынгу. З яго дапамогай «Зубр» паспяхова скупляе дробных правайдараў. Напрыклад, да «Сола» была выкупленая гомельская «Тэлесетка». Каб даць бой «Белтэлекаму», трэба мець салідную абаненцкую базу. Кампанія не можа на роўных змагацца з «Белтэлекамам» у цэнавых пытаннях, таму спрабуе выйграць за кошт дадатковых рэсурсаў. Як пацверджанне гэтаму, некалькі дзён таму безлімітавыя тарыфы «Атланта» падаражэлі на 20 тысяч рублёў.

**Інтэрнэтам карыстаецца 4,5 мільёна беларусаў**



Алег Хусаенаў аб'ядноўвае сілы правайдараў, каб апярэдзіць «Белтэлекам».

COSMOS TV ЦИФРОВОЕ ТЕЛЕВИДЕНИЕ СКОРОСТНОЙ ИНТЕРНЕТ

### 3. «Космас ТБ»

Акцыянеры — Рэспубліканскі радыётэлевізійны перадавальны цэнтр (дзяржава), International Telcell, Inc («Рэнова», расіянін Віктар Вексельберг).

Прыярытэтным кірункам мінскага аператара «Космас ТБ» застаецца тэлебачанне (каля 150 тысяч абанентаў), але і карыстальнікаў інтэрнэту налічваецца шмат — каля 80 тысяч чалавек.

50% акцый правайдара паранейшаму належаць дзяржаве, другой паловай валодае расійскі алігарх Віктар Вексельберг. Фармальна гэтая частка акцый належыць ягонай амерыканскай кампаніі Renova Media Enterprises, што шэсць гадоў таму купіла кампанію International Telcell, Inc, якая была сузаснавальніцай «Космас ТБ».

Планаў выхаду за межы сталіцы правайдар не агучваў.

### 4. «Дзелавая сетка»

Акцыянеры — «БТ Тэлекамунікацыі» (Уладзімір Пефціеў), Kenwood Corporation Ltd (Англія), «Белтэлекам».

На рэпутацыі «Дзелавой сеткі» пэўны адбітак пакідае блізкасць да беларускага алігарха, гандляра зброяй Уладзіміра Пефціева. Гэта адзіны правайдар, супраць якога ўскосна былі ўведзеныя санкцыі Еўрасаюза. Кампанія была створаная ў 1998 па ініцыятыве Міністэрства сувязі. Акцыі былі падзеленыя паміж англійскай карпарацыяй Kenwood Corporation Ltd, «Белтэлекамам» і «Белтэхэкспартам» Пефціева.

За кошт блізкасці да рэсурсаў «Белтэлекама» кампанія працуе ў 15 гарадах Беларусі. Яе паслугамі карыстаецца каля 50 тысяч чалавек. «Дзелавая сетка», як і «Белтэлекам», мае права прадаваць іншым правайдарам доступ да інтэрнэту.

### 5. MTIС

Акцыянер — Мінгарвыканкам.

Яшчэ адзін дзяржаўны манапаліст, Мінскія тэлевізійныя інфармацыйныя сеткі, можа забяспечыць інтэрнэтам кожную мінскую кватэру праз тэлевізійны кабель. Засталося заахвоціць абанентаў, а з гэтым пакуль праблема. Паслугамі правайдара карыстаецца каля 20 тысяч чалавек.

**Ягор Марціновіч**

# Летась Беларусь страціла чвэрць кароў

**Мясніковіч раскрыў чарговую таямніцу «беларускага эканамічнага цуду».**

Падчас нарады па пытаннях сельскай гаспадаркі прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч выступіў з нечаканай заявай. «За год мы страцілі ў краіне 381 тысячу кароваў, або 28,7% статку, — паведаміў ён. — Такія лічбы недапушчальныя, асабліва калі пагалоўе жывёлы часцяком закупляецца па імпарце, на што трацяцца значныя сродкі». Пры гэтым агульная колькасць пагалоўя нават расце! Калі супаставіць словы прэм'ер-міністра з дадзенымі Белстата, вынікае, што за год у гаспадарках з'явілася 400 тысяч кароў!

Абураны Мясніковіч і харчаваннем скаціны. «У нас кароў кормяць сіласам, часта перакіслым. Здароўя ў жывёлы няма. Многія думаюць: гэта не маё, калгаснае, звалілася карова і бог з ёй, аднак падзенне каровы павінна быць трагедыяй для гаспадаркі», — расказаў горкую праўду прэм'ер-міністр.

Чаму ўзніклі такія праблемы з пагалоўем кароў? «Некалькі гадоў таму на найвышэйшым узроўні было вызначана, што мінімальная колькасць пагалоўя, ніжэй за якую мы не можам апускацца, складае 1,2 мільёна кароў у грамадскім сектары. Таму ў нас трымаюць нават так званыя «хвасты» — кароў, якія зусім не даюць малака», — растлумачыў былы дарадца міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Казімір Раманоўскі.

Італьянская аграфірма «Бісола Габрыэле Фарм» працуе ў вёсцы Залессе, што на Кобрыншчыне. Замежныя інвестары меркавалі вырошчваць гародніну, але ў нагрузку атрымалі ўмову — заняцца каровамі. Ці выгадны гэта занятак?

«Калі з гэтым сур'ёзна працаваць, то атрымаецца і прыбытак. А калі робіш працу пад прымусам, то плёну не будзе, — прызнаецца намеснік дырэктара па вытворчасці Уладзімір Марчук. — Але было такое патрабаванне да інвестара. У выніку за кошт крэдытных сродкаў мы амаль дабудавалі новую ферму, на 300 галоў. Гэта новы аб'ект, каштаваў 2,5 мільярды рублёў». Менавіта такім чынам і павялічваецца агульны аб'ём надояў. «У гаспадарках растуць не якасныя паказчыкі — напрыклад, атрыманае малако з кожнай каровы, а толькі колькасныя, праз будаўніцтва фермаў і рост пагалоўя», — тлумачыць ён.

У дадатак да ўсяго, беларускія каровы не такія жывучыя. «У фермераў за мяжой карова доіцца 5-6 гадоў. У нас — 3 гады, а то і менш.



Фактычна карова выбывае ў самым росквіце сілаў. Далей яе трэба альбо трымаць у страту, альбо рэзаць», — кажа Казімір Раманоўскі. А ўсё праз дрэнныя ўмовы ўтрымання і недахоп корму.

Да падобных высноваў прыйшоў і Мясніковіч. «Трэба мець не толькі кароўнікі і даільныя залы, трэба карміць як належыць і даглядаць жывёлу», — заявіў ён. Але рашэнне прапанаваў у духу савецчыны — «выбудаваць жорсткую сістэму кантролю і адказнасці ў гэтай галіне».

**ЯМ**

## Сцісла

### Санаторыі зарабілі амаль $100 мільёнаў

Летась на лячэнне і адпачынак у беларускія здраўніцы прыехалі амаль 200 тысяч замежнікаў. Каля 90% з турыстаў склалі расійцы. Агульны кошт набытых пуцёвак склаў каля $98 мільёнаў.

### Зніжкі замежнікам

Сістэма Tax Free запрацуе ў Беларусі ў 2014 годзе, да чэмпіянату свету па хакеі. Замежнікі, якія набудуць тавары ў нашай краіне, змогуць вярнуць 20% ад кошту пры выездзе з Беларусі. Зніжка не будзе распаўсюджвацца на расійцаў і казахаў.

**ЯМ**

# З «Нашай Нівай» на БТРы

Што новага ў войску? Дзеліцца Станіслаў Рамановіч, **дэмбель з Магілёва**.

Маладафронтаўца з Магілёва Станіслава Рамановіча забралі ў войска ў ліпені 2010. Ён палічыў свой прызыў палітычным — перад гэтым яго адлічылі з універсітэта. Аднак ад службы касіць не стаў, паабяцаўшы застацца ў войску самім сабой і размаўляць там па-беларуску.

Пачынаў службу ў 56-м палку сувязі ў Мінску. Працягваў у 72-м Аб'яднаным навучальным цэнтры ў Барысаве.

### Па-беларуску — толькі ў вольны час

Спярша Рамановіч размаўляў з усімі выключна на беларускай мове. Хтосьці з курсантаў называў Станіслава «бээнэфаўцам», а некаторыя спрабавалі адказваць яму па-беларуску. У цэлым рэакцыя была пазітыўная.

Калі пачаліся нарады, яго папярэдзілі: па-беларуску — толькі ў вольны час. Тлумачэнне камандзіраў было каланіяльным: усе статуты і дакументы ў войску распрацаваныя па-расійску. Сярод многіх афіцэраў пануе стэрэатып непрыдатнасці роднай мовы ў войску.

Стаўшы сяржантам, Станіслаў пачаў запаўняць дакументацыю па-беларуску. Абгрунтоўваў гэта сваім канстытуцыйным правам, аднак усё адно займеў непрыемнасці. «Пагражалі зняць з нараду, а то і арыштаваць».

Хлопец кажа, што ў Пячах мову фактычна выціснулі з ужытку. Паўсюль расейшчына. Нават намеснік камдыва па ідэалогіі прызнаў праблему, адзначыўшы, што яна характэрная для грамадства ў цэлым.

### Ад «Нашай Нівы» да nn.by

У войску Станіслаў падпісаўся на «НН». Камандзіры прыкладалі намаганні, каб газету не бачылі іншыя салдаты. У той жа час многія з іх самі выказвалі жаданне пачытаць.

Калектыўнае чытанне «няправільнай» прэсы раздражняла.

## Дзе кантроль, там дзедаўшчыну перамаглі

Як і выпадкі, калі саслужбоўцы Рамановіча звярталіся да яго з «палітычнымі» пытаннямі. «Мяне вінавацілі ў агітацыі, абяцалі праблемы», — кажа Станіслаў.

Пазней большасць салдатаў пачала карыстацца мабільным інтэрнэтам. «Многія даведаліся пра сайт nn.by і пачалі шукаць навіны самастойна».

Так Рамановіч даведаўся пра падзеі 19 снежня 2010.

Дарэчы, тэлефонамі салдаты могуць карыстацца ў вольны час. Дазвол на мабілкі дае камандзір.




**Станіслаў Рамановіч даслужыўся да старшыны.**

### Дзедаўшчына не памірае

З назіранняў Станіслава вынікае, што «дзядуха» захавалася ў часцях спецпрызначэння, а таксама ў невялікіх часцях наводдаль ад гарадоў. У Пячах, па яго словах, пазастатутныя адносіны квітнеюць у тэхнічным цэнтры. У ім служаць у асноўным людзі з нізкім узроўнем адукацыі. Многія маюць за плячыма крымінальнае мінулае. Тут захаваліся і ганебныя традыцыі так званых пераводаў, і фізічны здзек. Хлопец сцвярджае, што за перавод патрабуюць як нідзе: «Калі ў большасці месцаў плацяць па 200—300 тысяч, то тут даходзіць да мільёна».

Рамановіч расказвае, што аднойчы некалькі салдатаў заявілі пра здзекі. Справай занялася контрвыведка. А потым іх выклікалі ў юрыдычны аддзел тэхчасці і абвінавацілі ў паклёпе на саслужбоўцаў. Праверка нічога не выявіла. Станіслаў кажа, што войска застаецца закрытай для грамадства структурай, а дзедаўшчына — гэта тое, пра што тут хочуць гаварыць у апошнюю чаргу.

А вось там, дзе ўвесь час кантроль і праверкі, дзедаўшчыну ўдаецца калі не перамагчы канчаткова, то моцна прыцiснуць.

### Лепей не хварэць

Яшчэ адна праблема — медыцына. Станіслаў расказвае, што ў іхняй медроце былі жахлівыя ўмовы: аблупеныя сцены, столі ў плесні, сырасць і холад. Дактары на дзяжурства прыносяць набытыя за свае грошы лекі.

«Салдаты купляюць за свае грошы ўсё: ад аспірыну і вітамінаў да вушных кропляў. Антыбіётыкі калі і ёсць, то слабыя. Горла лечым соллю. Так што лепей тут не хварэць».

Ён уздымаў гэтае пытанне на сяржанцкай радзе. Яго выслухалі і абяцалі разабрацца. Аднак нічога не змянілася.

### Рэформа ў дзеянні: катлеты з рысам

Пачатак службы запомніўся сечкай і «гумовым» мясам. У другі і трэці перыяд меню стала багацейшым. З'явіліся катлеты, паболела кашаў. Магчыма, пачала дзейнічаць анансаваная раней рэформа.

Перамены прыйшлі і ў казармы. Тут ідзе бесперапынны рамонт. Іншая справа, кажа Станіслаў, асноўныя працы робіцца сіламі салдатаў. «Нам казалі: самі зробім два паверхі. Цывільныя майстры за гэтыя грошы зробяць адзін».

Грошай у войску бракуе, гэта факт, згаджаецца Рамановіч. Але атрымліваецца, што многія салдаты замест вучобы (а гэта ж менавіта вучэбны цэнтр) месяцамі працуюць на рамонце. Акрамя таго, бясплатная праца стварае глебу для карупцыі.

**Сямён Печанко**



**Медрота: аблупеныя сцены, столі ў плесні, сырасць і холад.**

#### Дэмбельскі вэб-альбом

Як адпачываюць сучасныя салдаты? Эпоха мабільнага інтэрнэту не развучыла іх пісаць лісты, чытаць кнігі і спяваць пад гітару. У вольны час можна паглядзець кіно — хоць у клубе, хоць у казарме, дзе на кожным паверсе ёсць DVD-прайгравальнік.

І яшчэ адна прыкмета часу. Дэмбельскія альбомы, якія, здавалася, ужо колькі гадоў таму адышлі ў нябыт, пачалі з'яўляцца ў сацыяльных сетках. Цяпер будучыя дэмбелі свае фотаздымкі і шматлікія ўзоры вайсковай мудрасці змяшчаюць на старонках у «Аднакласніках» і «Вконтакте».

# Швейцарская электрычка: заўвагі і прапановы шараговага пасажыра

Новую электрычку пакрысе **абжываюць аматары піва**, а многія пасажыры дагэтуль блытаюцца ў сістэме аплаты.

Гарадская электрычка фірмы Stadler ад ліпеня 2011 возіць пасажыраў па маршруце Мінск — станцыя Беларусь. Як шараговы пасажыр, які карыстаецца паслугамі штодзень, вазьму смеласць агучыць некаторыя заўвагі і прапановы, якія назбіраліся за гэты час.

### Заўвага першая

Многія пасажыры дагэтуль не могуць разабрацца з сістэмай аплаты.

Як вядома, праезд у электрычках гарадскіх ліній па гэтым маршруце каштуе 2000 рублёў незалежна ад працягласці паездкі. Ці не штодзень бачу пасажыраў, якія спрабуюць праехаць у гарадской электрычцы па «звычайным» квітку.

Цяжка сказаць, хто з іх насамрэч памыліўся, а хто і схітраваў, спрабуючы сэканоміць. Але факт застаецца фактам — многія дагэтуль не ведаюць пра розніцу ў квітках на швейцарскую і савецкую электрычкі.

**Прапановы**

Адпаведныя аб'явы з'явіліся каля касаў, але, магчыма, варта правесці дадатковую працу з касірамі, каб тыя адукоўвалі пасажыраў альбо перапытвалі ў іх, на які цягнік ім патрэбен квіток.

### Заўвага другая

Яна звязаная з тэхнічнымі асаблівасцямі новых электрычак. Некаторыя пасажыры чакаюць, пакуль адчыняцца дзверы. Хоць мусяць самі іх адчыняць націсканнем кнопкі. Пра гэта кажуць надпісы каля тых самых кнопак (ёсць не паўсюль) і гукавая інструкцыя, што транслюецца рэгулярна. Аднак ці пасажыры такія няўважлівыя, ці звычка, набытая ў старых электрычках, вельмі моцная, але неадноійчы бачыў, як чалавек так і не трапляў у цягнік. Часцей за ўсё гэта здараецца ў цёмны час сутак, калі звонку надпіс каля кнопкі нябачны.

Таямніцай для некаторых пасажыраў застаюцца і сметніцы, схаваныя пад падаконнымі столікамі. Ці не таму на тых самых століках многія пакідаюць скарыстаныя квіткі?

**Прапановы**

Патрэбная тлумачальная праца кандуктараў. Магчыма, трэба нанесці на шкло ў дзвярах бачныя ўцэмры дадатковыя інструкцыі пра карыстанне кнопкай. Сметніцы варта пазначыць адмысловымі малюнкамі.

### Заўвага трэцяя

У першыя месяцы працы гарадской электрычкі ў ёй зусім не было аматараў разнастаіць час у дарозе півам. У верасні з цягнікоў зніклі ахоўнікі. Хоць гукавы інфарматар пра іх прысутнасць дагэтуль нагадвае. Можа, адсутнасць строгіх дзецюкоў з гумовымі дручкамі і паспрыяла таму, што ў новых цягніках усё часцей трапляюцца захмялелыя пасажыры.

Нярэдка здараецца гэта, калі ў «Мінск-Арэне» мінскі хакейны клуб «Дынама» прымае кагосьці з супернікаў. У цягніку можна пабачыць заўзятараў, што падбадзёрваюць сябе сідрам і півам.

**Прапановы**

Невядома, чым кіраваліся арганізатары гарадскіх ліній, калі скасоўвалі службу аховы ў электрычках, але падаецца, што рашэнне гэта дачаснае. Яе варта вярнуць, толькі трэба апрануць ахоўнікаў больш адпаведна. Напрыклад, у фірмовыя строі Stadler, якія носяць іншы персанал электрычак.

**СП**

# Зміцер Бандарэнка таксама напісаў прашэнне аб памілаванні

Такое рашэнне палітвязень прыняў **1 лютага**.

Палітык расказаў аб падпісаным прашэнні ў тэлефоннай размове з жонкай 4 лютага. Прычыну падпісання ён не назваў. Але ў лісце, які Вольга Бандарэнка атрымала 6 лютага, ён напісаў пра «водгук на маю просьбу». Жонка прасіла Змітра і раней падпісаць прашэнне. Бандарэнка падпісаў яго праз некалькі дзён пасля таго, як аналагічны крок зрабіў экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў.

Бандарэнка заўважыў, што «цяпер ім [лукашэнкаўцам] няма куды вісляць». Маўляў, калі прашэнне падпісаў і Андрэй Саннікаў, палітвязняў павінны выпусціць на свабоду. Па словах Вольгі, муж абмяркоўваў з ёй такую магчымасць раней. Адзначаў, што паглядзіць, як будзе развівацца далей сітуацыя за кратамі. Не выключана, што прашэнне аб памілаванні вязень падпісаў праз сваё слабое здароўе. Зміцер паведаміў жонцы аб кепскім самаадчуванні: калі ўстае — пачынаюцца болі. І мяркуе, што можа спатрэбіцца другая аперацыя. Бо ніякай палёгкі пасля раней праведзенай за кратамі аперацыі не адчувае.

30 студзеня Бандарэнку забаранілі карыстацца мыліцай, на якую ён абапіраўся пры хадзе. Яму таксама не дазволілі зручны мяккі абутак. Замест чаго ён мусіць абуваць цвёрдыя чаравікі. Днём вязню забаранілі ляжаць. Ён павінен хадзіць у шыхце. І яму трэба выконваць «лёгкія віды працы». Па словах жа Вольгі, на наступны дзень пасля падпісання прашэння пэўныя палёгкі мужу вярнулі. Дзмітрыю дазволілі карыстацца мыліцай і перадалі артапедычны абутак. А таксама дазволілі не хадзіць у шыхце.

Зміцер Бандарэнка асуджаны на 2 гады калоніі агульнага рэжыму. За кратамі ў яго абвастрыліся хранічныя захворванні, і ў ліпені яму зрабілі аперацыю на хрыбетніку. Па словах Вольгі Бандарэнкі, у мужа паляпшэння пасля аперацыі не адбылося. Змітру двойчы адмовілі ў датэрміновa-ўмоўным вызваленні. Тэрмін зняволення ў Бандарэнкі заканчваецца сёлета ў снежні.

**Сяргей Макарэвіч**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Статкевіч «схільны да нападаў і ўцёкаў»

З такой характарыстыкай палітыка **этапавалі з калоніі ў турму**.

У канцы мінулага тыдня жонка палітвязня Марына Адамовіч атрымала два лісты ад мужа. Датаваны яны яшчэ 24 і 25 студзеня. Па словах жанчыны, лісты да яе наўмысна прытрымліваюць. Да іншых сяброў допісы ад палітыка дайшлі раней.

Марына адзначыла, што весткі пра сябе Мікалай Статкевіч напісаў адразу па выхадзе са штрафнога ізалятара. Першы з іх — кароткі. Палітык спяшаўся паведаміць жонцы, што выйшаў з ШІЗА. Ён адзначыў, што адміністрацыя шклоўскай калоніі прызнала яго «схільным да нападу і да ўцёкаў». Гэта значыць, што з такой «характарыстыкай» яго перавялі ў магілёўскую турму.

У другім лісце Мікалай Статкевіч напісаў пра этапаванне ў Магілёў. Па словах Марыны Адамовіч, умовы ў турэмным карцары больш жорсткія, чым у калоніі. На ноч там не выдавалі ватоўку, якую абавязаныя выдаваць вязням, асабліва ў зімовы час. Цяпер у палітыка ёсць магчымасць гуляць у турэмным дворыку, праўда, пад наглядам сабак. «Ён жартуе: ты ж ведаеш, як я люблю сабак, так што ў мяне цяпер ёсць магчымасць бачыць іх кожны дзень».

Марына Адамовіч па-ведаміла, што так і не ўдалося перадаць Статкевічу лекі. Жанчына спрабавала гэта зрабіць яшчэ месяц назад. Але таады ў шклоўскай калоніі іх адмовіўся прыняць старшы лейтэнант медыцынскай службы Дзяніс Асіпчук. Па інфармацыі Адамовіч, палітык з такой просьбай звяртаўся і да лекараў.

Звяртае ўвагу, што ў турэмны тып зняволення аднaчасова былі пераведзеныя Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч і Яўген Васьковіч.

**Кастусь Матушыч**



**4 лютага ў Нью-Ёрку побач са штаб-кватэрай ААН прайшла акцыя ў падтрымку беларускіх палітвязняў. 8 лютага — тры гады, як Мікалай Аўтуховіч знаходзіцца за кратамі.**

## «У беларускай мове тут практыкавацца няма з кім»

Палітвязень Дзядок раіць палітыкам быць **гатовымі да турмы**.

Жонка Мікалая Дзядка Валерыя паведаміла, што да мужа ў студзені прыязджалі супрацоўнікі ГУБАЗ. Сярод іх быў Аляксандр Ліцвінскі, які «кіраваў зачысткай анархістаў і іншых актывістаў восенню 2010 года».

«Прыехалі, каб запытацца, ці змяніў Мікола за час зняволення свае перакананні. Ён адказаў адмоўна, на што супрацоўнікі пачалі пагражаць, што нават калі ён вызваліцца, доўга на свабодзе ён не застанецца. І пры жаданні яны яго згнаяць у турме. Таксама яны лічаць, што муж нібыта быў лідарам анархістаў, бо за час яго зняволення не было акцый анархістаў, якія маглі б іх зацікавіць. Відаць, яны так і не зразумелі, што ў анархістаў няма лідараў», — сказала Валерыя.

Мікалай Дзядок даслаў ліст і ў Рэдакцыю. У сваім допісе, праўда, «шмат чаго не напішаш, прынамсі, самае цікавае і галоўнае».

«Працую ў цэху металаапрацоўкі. Не сказаў бы, каб праца была цяжкая. Але шум і пыл, канечне, здароўя не дадаюць. Акрамя працы, на дзень адбываюцца тры праверкі. Агулам 40—50 хвілін праводжу на вуліцы».

У вольны час вязень адказвае на лісты, «вучу гісторыю, англійскую мову, вучуся маляваць. Шмат чытаю самай рознай літаратуры, акрамя бязглуздых дэтэктываў альбо раманаў. Бібліятэка тут нядрэнная. Ёсць і некалькі паліц з беларускай літаратурай».

Палітвязень піша, што ў калоніі не сустракаў заўзятых прыхільнікаў дзеючай улады. «А пасля крызісу і абыякавых стала меней». А апазіцыйным актывістам раіць «ад самага пачатку сваёй дзейнасці пачынаць рыхтавацца сябе да магчымага зняволення. Гэта рэчаіснасць. Баяцца гэтага не трэба».

Ліст палітвязня напісаны па-беларуску. «Але ў беларускай тут практыкавацца няма з кім».

**Сяргей Макарэвіч**

## Эдуард Лобаў сячэ дровы

І **чакае спаткання** з маці.

Як расказала маці палітвязня Марына, ад сына на мінулым тыдні прыйшоў ліст. У ім Эдуард паведаміў, што на 2 сакавіка напісаў заяву з просьбай дазволіць спатканне. Просьба пакуль не задаволена.

Эдуард таксама атрымаў адмову на абскарджванне прысуда з Вярхоўнага Суда. Абгрунтавалі яе тым, што на працэсе пацярпелыя і сведкі далі дакладныя звесткі. І ў іх няма разыходжанняў.

Марына Лобава сказала, што да ліста сын тэлефанаваў ёй з калоніі. Ён у курсе таго, што Андрэй Саннікаў падпісаў прашэнне аб памілаванні. Але па словах жанчыны, ніяк не каментаваў навіну. Яна ўпэўнена, што Эдуард не асуджае такі ўчынак палітыка. Як не асуджаў і раней вызваленых палітвязняў, хто напісаў прашэнне.

Эдуард Лобаў адбывае пакаранне ў калоніі ў Івацэвічах. Па словах маці, працы асаблівай у яго няма. Сын сячэ дровы на патрэбы калоніі — для сталоўкі, ацяплення.

**КМ**

## Напішыце палітвязням!




Падтрымайце лістамі тых, хто цяпер знаходзіцца за кратамі!

**Алесь Бяляцкі**, 222160, Мінская вобл., г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22а, турма № 8;

**Каваленка Сяргей**, 210026, г. Віцебск, вул. Гагарына, 2, СІЗА-2;

**Андрэй Саннікаў**, 211300, Віцебская вобл., Віцебскі р-н, п.Віцьба, папраўчая калонія №3;

**Зміцер Бандарэнка**, 213105, г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, ПК № 15;

**Мікола Статкевіч, Яўген Васьковіч**, 212011, г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а,турма № 4;

**Зміцер Дашкевіч**, 211791, Віцебская вобл., г.Глыбокае, вул. Савецкая, 205, ПК № 13;

**Павел Севярынец**, 225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Куплін, ПУАТ-7;

**Мікалай Дзядок**, 213105, г. Магілёў, п/а Вейна, Слаўгарадская шаша, 183, ПК № 15;

**Аляксандр Францкевіч, Эдуард Лобаў**, 225295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а/с 20, ПК № 22;

**Ігар Аліневіч**, 211440, Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8, ПК № 10;

**Арцём Пракапенка**, 213004, Магілёўская вобл., г.Шклоў, ПК №17;

**Павал Сырамлотаў**, 213030, г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, ПК №19;

**Мікалай Аўтуховіч**, 230023, г.Гродна, вул. Кірава, 1, турма №1.

# Што падарыць каханаму на 14 лютага?

**Топ-7 ідэяў** для падарункаў на Дзень закаханых

Прапануем 7 відаў падарункаў: ад нейтральных да самых пікантных.

1. **Сувенір з фота.** Кубак, майка ці пазл (мазаіка) з вашым фота зробіць падарунак індывідуальным і доўгі час будзе нагадваць пра вас.

Сучасныя тэхналогіі дазваляюць наносіць фота практычна на любую паверхню. Ваша выява можа красавацца на падушцы, ручніку, магніціку, дыванку для мышы, тэрмасе і нават сподняй бялізне.

Кошт кубка — 70—130 тысяч, майкі — ад 110 тысяч, пазл памеру А4 — 50 тысяч, пазл у форме сэрца — 70 тысяч.

2. **Шарж (партрэт-карыкатура).** Добры падарунак для людзей з пачуццем гумару. А гумар, як вядома, аб'ядноўвае. Цана чорнабелага малюнка-шаржу — 15 у.а. Каляровыя партрэты каштуюць удвая даражэй. Дарэчы, зрабіць заяўку на шарж і атрымаць гатовы прадукт можна не выходзячы з дому. Вы дасылаеце фота, робіце аплату праз інтэрнэт і праз 1-2 дні атрымліваеце на е-мэйл якасны партрэт.



Для тых, хто шмат часу праводзіць у інтэрнэце.

3. **Падарункі-прыколы.** Актуальныя, калі ваш каханы ці каханая не прыхільнік карысных падарункаў. Гэта можа быць гадзіннік для закаханых (без лічбаў — бо шчаслівыя часу не пільнуюць) ці антыгадзіннік, які рухаецца ў зваротным кірунку, бралок з жывой раслінай унутры альбо крэсла з...кардону.

4. **Хто бавіць шмат часу за кампутарам,** высока ацэніць USB-набор, куды ўваходзяць награвальнік для кубка, масажор і пыласос. Цана набора ў інтэрнэт-крамах — 420 тысяч. Ахаладжальная падстаўка пад ноўтбук — яшчэ адзін карысны гаджэт для інтэрнаўтаў. Цана — 200-400 тысяч.



«Мілавіца» падрыхтавала новую калекцыю на вясну-лета.



Рукавіцы для закаханых — новая фішка на Дзень святога Валянціна.

5. **Падарункі-палавінкі.** Напрыклад, бралок-сардэчка, палову якога вы дорыце, а палову пакідаеце сабе на знак узаемнага кахання. Альбо рукавіцы для закаханых: дзве асобныя і адна супольная, якую можна насіць толькі трымаючыся за рукі. Цана рукавіцаў — 250 тысяч.

6. **Бялізна.** Дарыць споднюю бялізну можна чалавеку, з якім у вас сапраўды блізкія адносіны. Камплекты бялізны ад беларускіх вытворцаў («Мілавіца», «Серж», «Купалінка», «Любава» ды інш.) — прыемны і карысны падарунак каханаму ці каханай. Цана вагаецца ад 100 да 500 тысяч.

7. **«Для дарослых».** Інтымныя «цацкі» ў Беларусі можна набыць у інтэрнэт-краме ці ў рэальным сэкс-шопе (усё ж такія існуюць). Цэннік на аксэсуары «для яе» пачынаецца ад 12 у.а., «для яго» — ад 20 у.а. Некаторыя крамы прапануюць акцыі кшталку «купі вібратар і атрымай крэм у падарунак». Больш нейтральны варыянт — эратычная бялізна. Галоўнае, перад набыццём падарунка ў сэкс-шопе запэўніцеся, што ён не паляціць у ваш бок са словамі «вычварэнец» ці «вычварэнка».

Аксана Рудовіч

## Наведнік мінскай піцэрыі знайшоў у салаце прусака

Кіраўніцтва сеткі «Тэмпа» **прызнала выпадак.**

Вадзім Скроцкі зайшоў з сябрамі ў піцэрыю «Тэмпа», што ў цэнтры «Экспабел», павячэраць. У сваёй салаце побач з кавалкамі курынага філе ён нечакана ўбачыў... прусака. Пакуль афіцыянтка паспешліва хавала салату за 32 тысячы (!), ён паспеў зрабіць фота і змясціць яго ў Твітар.

Вадзім расказвае, што адміністратарка спіхнула ўсю адказнасць на афіцыянтку і нават не папрасіла прабачэння.

«Адміністратарка хуценька збегла, зрабіўшы выгляд, што ўсё цудоўна, усё добра. І далей нічога нам не было ні прапанавана, ні сказана. Увогуле ніякіх дзеянняў. Як быццам сітуацыя абсалютна нармальная, такая штатная, усё ОК».

Рабіць запіс у кнігу скаргаў Вадзім не стаў. Кажа, што проста больш ніколі не зойдзе ў гэтую піцэрыю, у якой звычайна бываў з сябрамі раз на тыдзень.

«Я вельмі шкадую, што гэта адбылося ў сценах нашай установы. Мы ўжо прынялі меры і зробім усё магчымае, каб пазбегнуць такога ў будучыні», — кажа кіраўніца сеткі Таццяна Лата.

«Еўрарадыё»





Камертон Сяргея Ваганава

## Самагубства прывіда

Знаёмы токар на пытанне «Як справы?» звычайна адказвае: «Магло быць і лепей». Дамагчыся, што магло быць лепей, ніколі не ўдавалася. Пакуль нядаўна я не даведаўся, што ён з'ехаў некуды ў Расію. Успомніў, што бацька навучыў яго класці печы...

Другі знаёмы, селянін з-пад Іўя, колькі год таму збег з паміраючага калгаса і саматужна пачаў весці сельскую гаспадарку — выбляць на продаж розны прадукт. «Ну ўсё, — заклапочана ўздыхнуў ён пры апошняй сустрэчы, — скончыўся продаж... Вось атрымаю «карту паляка» ды з'еду ў Польшчу. Тут няма чаго рабіць...»

У нядзелю БТ, аб'еўшыся, мусіць, уласнай хлуснёй пра шчаслівую ад падвышанай пенсіі бабулю, з захапленнем, быццам у краіне растуць вытворчасць і заробкі, паведаміла, што ці не ў разы вырасла колькасць вакансій. Я веру гэтым лічбам — людзі звальняюцца, з'язджаюць ад тых заробкаў хто ў Расію, хто ў Польшчу, хто куды...

Вось вам і байкот.

Так, ёсць падстава спытаць: якое дачыненне мае дзейнасць беларускай апазіцыі да таго, што адбываецца ў краіне? Не выказванні, не заклікі, не заявы, не дэкларацыі, не дэманстрацыя светапогляду — дзейнасць, цяжкая праца з людзьмі. На жаль, аніякай.

Калі лідар незалежнага прафсаюза пагражае ўладам арганізацыяй у замежжы байкоту беларускіх вырабаў, хочацца запытацца: а што гэты прафсаюз зрабіў для таго, каб не было патрэбы ў такім ганебным байкоце? Зладзіў забастоўку, распачаў гучныя судовыя справы ў абарону пацярпелых працаўнікоў, стварыў стачкамы, як тое было напрыканцы 80-х, арганізаваў грамадзянскі супраціў продажу «фамільнага срэбра»?.. Можа, нешта і робіцца. Але ўсё, што вядома пра гэты прафсаюз, — заявы ды справаздачы ў Жэневе...

Калі прыватная, хай сабе на падставе палітычнай непаўнавартасці, сварка асобператвараецца, у тым ліку іх намаганнямі, ледзь не ў прынцыповы канфлікт, ад якога

### Вось вам і байкот »

аж заходзіцца ў асалодзе «сенсацыі» апазіцыйная прэса, не гаворачы ўжо пра БТ, мімаволі прыходзіш да сумнай высновы: адказнай палітычнай апазіцыі ў Беларусі няма.

Ёсць, безумоўна, моцная духоўная апазіцыя, з'ядналая ўнутраным супраціўам пачварнаму злу.

Ёсць вялізная колькасць незадаволеных уладай, упэўненых, што «магло быць лепей», і тых, хто самастойна шукае выйсця, усё часцей за мяжой.

І ёсць прафесійныя апазіцыянеры, сярод якіх ёсць здольныя і на самаахвяраванне, і на здраду, гатовыя і пайсці ў турмы, і пацыху ладзіць гешэфт...

Але сапраўднай палітычнай апазіцыі няма.

Сапраўдная палітычная апазіцыя была жорстка збітая падчас вядомай галадоўкі дэпутатаў ад БНФ. А тая, што пазней мелася стаць сапраўднай, знікла ў нябыт...

Застаўся прывід.

Прасцей за ўсё патлумачыць такое становішча толькі вар'яцкім ціскам дыктатуры пры абыякавасці насельніцтва. Але тое ж насельніцтва, калі адчувае пагрозу сваім жыццёвым інтарэсам, праяўляе здольнасць да з'ядналага супраціву. Прыкладаў усё больш — ад супраціву аўтааматараў да супраціву знішчэнню парка. Праблема ў тым, што нашы прафесійныя апазіцыянеры не ў стане спалучыць жыццёвыя інтарэсы насельніцтва з сапраўднай незалежнасцю краіны, з нацыянальным Адраджэннем, з дэмакратыяй, з неабходнасцю кардынальных зменаў палітычнай сістэмы. Не дзіва, што ўлада, напужаная тэктанічнымі зрухамі ў свеце, сама ў звыклай «локшыннай» манеры заяўляе аб неабходнасці зменаў...

Мяне зусім не абурае тое, што апазіцыя жыве на замежныя грошы. Калі ўлады не саромячыся адбіраюць грошы ў настаўнікаў, дактароў ды пенсіянераў на падрымку таго ж БРСМ, дзяржаўных СМІ ды іншых праўладных структур, чаму апазіцыя павінна жабраваць?

Шкада толькі, што гэтыя грошы ідуць галоўным чынам на падтрымку прывіду...

Ці не прывід гэта, калі, нягледзячы на памылкі і паразы, у палітычнай апазіцыі застаюцца амаль адны і тыя ж персоны? Дыктатура, безумоўна, не зацікаўленая ў моцных палітычных партыях і грамадскіх рухах. Але ці зацікаўленыя ў тым жа нязменныя лідары гэтых малакалькасных і малавядомых утварэнняў? Ад каго з іх вы чулі прызнанне ва ўласных памылках? І што яшчэ горш — ці чулі вы, акрамя як ад Някляева, прабачэнні за тое, што не здолелі супрацьстаяць правакацыі на Плошчы і падставілі людзей пад арышты, турмы і дручкі? Так, самі трапілі ў турмы, у палітвязні. Але што ж дзіўнага ў тым, што няма масавых патрабаванняў іх вызвалення, што ўся надзея на міжнародную супольнасць?!

...Сябра, з якім я падзяліўся гэтымі думкамі, нагадаў вядомы выраз: «Не страляйце ў піяніста, ён грае як можа».

Але ж «піяніст» страляе ў сябе сам...

*kamerton_41@mail.ru*

# Якія замкі збіраюцца рэстаўраваць?

Урад прыняў праграму **«Замкі Беларусі»** на $15,5 мільёнаў.

Упершыню такая праграма зацверджаная на дзяржаўным узроўні. «Замкі Беларусі» распрацавала Міністэрства культуры.

Калісьці ў Беларусі было больш за сто замкаў. На жаль, захаваныя абарончыя збудаванні можна пералічыць па пальцах. Што не зруйнавалі войны, дабіваў час і народная гаспадарка.

У спіс праграмы планавалі ўключыць 16 аб'ектаў. Але ў выніку ўвайшло 38 — улічылі просьбы абласнога ды раённага чынавенства.

На аднаўленне замкаў плануюць выдаткаваць каля 131 мільярда рублёў цягам 2012—2018.

### «Замкі» — як «Дажынкі»

Праграма прадугледжвае аднаўленне такіх легендарных збудаванняў, як Стары замак у Гродне (на яго выдаткоўваецца 37 млрд 200 млн рублёў), замкі ў Лідзе і Любчы, Сапегаўскі палац у Ружанах.

Гродна займае другое месца пасля Мінска па аб'ёме ўкладанняў. Найменшы кавалак бюджэту (1,5 млн рублёў) прызначаны Слуцку — на добраўпарадкаванне тэрыторыі гарадзішча IX—XIII ст. Прычым выдзяляць сродкі плануюць у 2017—18 гадах. Будзем спадзявацца, інфляцыя іх не зжарэ аж настолькі, каб не хапіла заплаціць чалавеку, які абкосіць гарадзішча.

Возьмуцца і за прылеглыя да замкаў тэрыторыі. У Міры адновяць рэгулярны італьянскі парк. Праўда, звестак пра яго выгляд не захавалася. А заадно рэстаўруюць стаў, дамбу, агароджу і нават мемарыял на месцы знішчэння мірных жыхароў нямецкімі фашыстамі.

У Камянецкай вежы плануецца заменіць дах — на гэта з мясцовага бюджэту выдаткавана 51,8 млн. Рамантаваны шматкроць помнік ужо выклікае кпіны турыстаў шклопакетамі ў байніцах. Затое ў Крэўскім замку плануюць аднавіць паўночную, княскую вежу, у якой падпісвалася Унія. На Крэва выдаткуюць 2 млрд 500 млн цягам 2012—15 гадоў.

Замкі ў Навагрудку, Крэве, Гальшанах, Быхаве, Геранёнах, Смалянах і Тэльмане чакае кансервацыя з «частковай рэстаўрацыяй». Самыя цэлыя іх фрагменты прыстасуюць пад музейныя экспазіцыі. Як, напрыклад, частку замка Сапегаў у Быхаве, дзе была мэблевая фабрыка і вайсковая часць.

Бюджэтныя сродкі абудзяць адвечны канфлікт між рэстаўратарамі, гатовымі бясконца ўдасканальваць праекты, і мясцовай уладай, якая плануе выкарыстаць грошы на навядзенне парадку. Так, праектная група Беларускага камітэта ICOMOS на чале з Ігарам Раханскім настойвае на навуковых даследаваннях у Гальшанскім замку. Чынавенства ж плануе абмежавацца рамонтам.


PHOTO BYMEDIA.NET

Замак у Крэве ператвараецца ў кучу камянёў



У Міры адновяць італьянскі парк. Праўда, ніхто не ведае, як ён выглядаў.

### Парк Вішнявецкіх фундуюць французы

Парк з рэшткамі сцяны замка Вішнявецкіх у вёсцы Тэльман пад Брагінам збіраюцца парадкаваць за французскія грошы: 25 млн рублёў выдаткоўвае грамадская арганізацыя «Спадчына без межаў» і асацыяцыя «Валь дэ Луар». Цяперашні палескі аграгарадок імя нямецкага камуніста — гэта колішняя вёска Двор-Гарадзішча. Там стаяў Брагінскі замак, цэнтр вялізарных латыфундыяў Вішнявецкіх.

Некалі Адам Вішнявецкі, руплівец праваслаўя ў Рэчы Паспалітай, прытуліў тут Лжэдзмітрыя I, які ўпершыню прызнаўся менавіта яму, нібы ён — сын Івана Грознага. У 1648 годзе жыхары Брагіна адчынілі браму ардзе Хмяльніцкага і за здраду замак з мястэчкам быў разбураны. На ягоным месцы ўзнік палац з фальваркам, якім валодаў і Міхал Вішнявецкі — кароль польскі і вялікі князь літоўскі.

Будзе што расказаць турыстам, калі, канечне, знойдуцца смелыя. Брагінскі раён — самы забруджаны ў Чарнобыльскай зоне. Радыяцыя тут сягае 20—30 Кюры/км.

### Гарадзішчы для пікнікоў

Дзевятнаццаць замчышчаў, у тым ліку ў вёсцы Жабер Драгічынскага раёна, Крыўлянах Жабінкаўскага раёна, у Заслаўі і Браславе, запланавана добраўпарадкаваць. Калі чуеш слова «добраўпарадкаванне», міжволі прыгадваецца замчышча ў Мазыры, на якім прадпрыемства «Мазырдрэў» збудавала пахабны рэкламны церамок. Ці замчышча ў Браславе, дзе панастаўлялі альтанак для аматараў выпіцьзакусіць...

На добраўпарадкаванне гарадзішча ў курортным Браславе, дарэчы, выдаткоўваюць 2 млрд 500 млн — утрая болей, чым на полацкі Верхні замак.

### Фартэцыя ля дома Галіны Радзівонаўны

На пяці гарадзішчах (у Тураве, Мілаградзе, Глуску, Рыжкавічах і Мінску) запланаваныя работы па музеефікацыі. Уражвае, што ў адным шэрагу з Мінскім стаіць замчышча ў Рыжкавічах. Так, гэта рэшткі сярэднявечнага Шклова XVI—XVIII ст., дзе быў колісь замак Хадкевічаў, кляштар з касцёлам дамініканцаў, мураваная ўніяцкая Петрапаўлаўская царква... Але Рыжкавічы пакуль не ўнесеныя ў ніводны даведнік. На музеефікацыю археалагічнага комплексу ў вёсцы Рыжкавічы Шклоўскага раёна, у якой жыве Галіна Радзівонаўна Лукашэнка, запланавана выдаткаваць 40 млн з бюджэту раёна і вобласці.

**Упершыню такая праграма зацверджаная на дзяржаўным узроўні »**

Мінск атрымае найбольшую частку сродкаў — 62 млрд 573 млн рублёў. План аднаўлення Мінскага замчышча, распрацаваны «Мінскпраектам», прадугледжвае пабудову новай праваслаўнай царквы на падмурках храма XII ст. Той храм — адна з найвялікшых таямніцаў старажытнага Менска: ён так і не быў дабудаваны, а пасля, сведчаць археолагі, ператварыўся ў паганскі некропаль. Ніякіх звестак пра тое, як мог выглядаць храм, няма. Калі пастаўяць фальсіфікат на аўтэнтычных падмурках, чаму б не панабудоўваць новых замкаў і на ўсіх пустых гарадзішчах?

Мінскае замчышча — сэрца ўсёй Беларусі, пачатак пачаткаў. Дыскусіі вакол праекта аднаўлення Ніжняга замка ў Вільні расцягнуліся на 100 гадоў. У Беларусі дыскусіяў не было.

### Немагчыма без нас

Я б вельмі хацеў, каб замак у Крэве, дзе колісь вырашаўся лёс краёў ад Балтыкі да Чарнамор'я, узняў свае спічастыя муры, каб і пад Брагінам, у вёсцы з вернутым спрадвечным імем Двор-Гарадзішча, паўстаў цікавы асветны асяродак, каб тлумы турыстаў захапляліся Шклоўшчынай і каб старажытны Мінск урэшце зажыў уласным паважным людскім жыццём... Але гэта немагчыма без удзелу нас усіх, каму гэта неабыякава.

**Сяргей Харэўскі**

**Бюджэт праграмы**

На рэалізацыю праграмы «Замкі Беларусі» будзе выдаткавана больш за Br131 млрд, у тым ліку з рэспубліканскага бюджэту — Br2, 5 млрд, мясцовых бюджэтаў — Br129 млрд, сродкаў інвестараў — Br25 млн. Акрамя таго, на гэтыя мэты будуць накіраваныя сродкі з дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы.

## Расійскіх «чарнасоценцаў» раздражняе рэстаўрацыя беларускіх замкаў

На інфармацыю пра тое, што беларуская дзяржава накіруе значныя сродкі на аднаўленне аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны ў рамках праграмы «Замкі Беларусі», адрэагаваў сайт regnum.by, філія расійскага «імперскага» regnum.ru. Маўляў, «міністерство культуры Белоруссії» будзе аднаўляць літоўскія і польскія замкі.

Далей ідзе кароткая гістарычная даведка адносна гэтых замкаў і постацей, што былі з імі звязаныя: Міндоўг, Гедымін, Ягайла. Напрыклад, апошняга абвінавачваюць у тым, «што, стаўшы польскім каралём, узяў на сябе абавязкі распаўсюдзіць каталіцызм ва ўсіх сваіх уладаннях, у тым ліку рускія землі (тэрыторыя цяперашняй Беларусі)».

У Лідскім жа замку жыў «заклятый недруг» Вялікага Княства Маскоўскага хан Даўлет-Хаджы Гірэй.

А падчас падзей 1794 у Лідзе ад расійскіх войскаў адбіваўся атрад Тадэвуша Касцюшкі, які «змагаўся за аднаўленне Польшчы ў межах 1772 года». Караткевіч называецца «савецкім», а не беларускім пісьменнікам.

«Міністэрства культуры Беларусі надае асаблівую ўвагу аднаўленню помнікаў, якія нагадваюць пра часы Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Савет міністраў Беларусі пастановай №17 ад 6 студзеня зацвердзіў дзяржаўную праграму «Замкі Беларусі» на 2012—2018 гады, у рамках якой прадугледжаны рэстаўрацыя і аднаўленне замкаў польскіх магнатаў», — піша regnum.by.

Таксама сайт нагадвае, што ў 2004 годзе ўлады Беларусі аднавілі сядзібу Касцюшкі ў Косаве (Брэсцкая вобласць). «Сядзіба Касцюшкі была спаленая ў жніўні 1942 года беларускімі партызанамі. На аднаўленне сядзібы (па малюнках XIX ст.) і арганізацыю музея Тадэвуша Касцюшкі былі выдаткаваныя грошы беларускага дзяржбюджэту, а таксама грант урада ЗША».

Выглядае, што аўтарам сайта больш хацелася, каб Міністэрства культуры вылучала грошы на артэфакты расійскай прысутнасці ў Беларусі, а тут выходзіць не па-іхнаму.

**Зміцер Панкавец**

# У Шабанах замерз 17-гадовы хлопец

**По тэлефоне ён паведаміў маці, што заблукаў, але дапамогі не паспеў дачакацца.**

28 студзеня каля 22 гадзіны Юрый Н. выйшаў з гаража знаёмага ў сталічным раёне Шабаны, але дадому так і не трапіў. Каля 23-й гадзіны ён апошні раз патэлефанаваў маці. Пазней, калі бацькі звярнуліся ў міліцыю, па тым званку вызначылі раён тэлефанавання — вёска Вялікае Сіцклева. Вёска знаходзіцца праз дарогу ад Шабаноў. Гэта дазволіла лакалізаваць пошукі. Але цела хлопца знайшлі толькі 2 лютага. Верагодна, што ў тую ноч Юрый каля чыгункі збочыў улева, а трэба было ўправа. Юнак замерз.

Хлопец вучыўся ў Мінскім дзяржаўным машынабудаўнічым каледжы на 3 курсе. Спецыяльнасць — тэхналогія машынабудавання. Аднагрупнік Андрэй запомніў яго толькі са станоўчага боку.

«Ён быў добрым хлопцам, прыязным. Ніколі абразлівага слова ні на кога не сказаў. Жартаваў, усміхаўся заўсёды, камунікабельны быў. Не паліў, не ўжываў алкаголь. Вучыўся добра — вышэй за сярэдні ўзровень. Адно з яго захапленняў — футбол, якім ён займаўся з самага дзяцінства. На першым курсе гуляў за каманду каледжа».

**Сяргей Макарэвіч**

У падмаскоўных Мыцішчах замерз на вуліцы 29-гадовы акцёр Анатоль Атраднаў, які граў у серыялах «Глухар», «Інтэрны», «Універ», «Салдаты». Ён выйшаў з дому 29 студзеня і не вярнуўся. Яго знайшлі мёртвым на наступны дзень. Слядоў гвалту на целе выяўлена не было. Меркаваная прычына смерці — пераахаладжэнне. Па словах сяброў, мужчына не злоўжываў спіртнымі напоямі. Верагодна, яму магло стаць кепска з сэрцам, ён упаў, страціў прытомнасць і неўзабаве да смерці замерз.



**Верагодна, Юрый збочыў улева, а трэба было направа**

# Што рабіць, каб не замерзнуць

Спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя падрыхтавалі парады, як не замерзнуць.

Характэрныя прыкметы абмаражэння: бялеюць мочкі вушэй, кончык носа, падбародак, шчокі.

Калі рукі замерзлі ў рукавіцах, не трэба сціскаць іх у кулакі. Можна сагрэць іх, паклаўшы на голы жывот.

Калі замерзлі ногі, сагрэць іх можна пагойдваннем з пятак на наскі. Калі пальцы пачало ламіць, ператрывайце і працягвайце хаду.

Калі замярзае твар, прайдзіце нейкую адлегласць, нахіліўшыся наперад, ці зрабіце 10-20 нахілаў. Можна расцерці абмарожаны ўчастак мяккай тканінай, але нельга гэта рабіць снегам. Пры ветры твар трэба закрыць шалікам.

### Калі ў дарозе вас напаткала мяцеліца

Схавайцеся пад галінамі дрэў ці проста ў снезе. У схованцы ў гурбе зрабіце адтуліну ў «столі» для вентыляцыі, а таксама пад нагамі паглыбіце яму (сюды пры цыркуляцыі будзе апускацца халоднае паветра). Ні ў якім разе не засынайце!

### Калі мяцеліца вас заспела ў аўтамабілі

Зачыніце ўсе вокны, накрыйце рухавік з боку радыятара, па магчымасці размясціце аўто рухавіком у надветраны бок. Перыядычна разграбайце снег вакол машыны. Не дапускайце пранікнення ў кабіну выхлапных газаў, сачыце, каб выхлапная труба не забівалася снегам. Помніце, што ў аўто пяць колаў (з запасным), якія няздрэнна гараць.

### Як адагрэць замерзлага чалавека.

Найбольш эфектыўная ванна (не больш за 40 °С) альбо абкладанне пацярпелага змочанымі ў гарачай вадзе ручнікамі ці прасцінамі. Трэба сачыць, каб тканіна не астывала — мяняйце на гарачую. Адначасова можна рабіць масаж рук і ног. Ногі лепш прыўзняць, каб накіроўваць кроў да галавы і цела. Сграванне павінна быць паступовым. Калі чалавек сагрэўся — напаіце яго гарачай салодкай гарбатай ці кавай. У першыя гадзіны побач з пацярпелым варта легчы здароваму чалавеку.

**Калі рукі замерзлі ў рукавіцах, не трэба сціскаць іх у кулакі**

**СМ**




PHOTO.BYMEDIA.NET

**Дактарам хуткай дапамогі ў маразы даводзіцца часцей рэагаваць на выклікі.**

# Непаўналетняга шукаюць другі месяц



**17-гадовы Уладзімір Драгун з Мёраў знік у навагоднюю ноч.**

Хлопец 1 студзеня каля 2-й гадзіны ночы пакінуў дыскатэку ў мясцовым Доме культуры, і больш яго не бачылі.

У Мёрскім РАУСе паведамілі, што версій разглядаецца некалькі, але агучваць іх пакуль рана. Крымінальная справа заведзеная па артыкуле «знікненне чалавека». Пошукі не спыняюцца.

Уладзімір сёлета скончыў школу. Працаваў у ПМК цесляром. Хударлявы, кароткія цёмнарусыя валасы. На правым плячы татуіроўка — чорна-белы іерогліф, на левай кісці рукі — абстрактны малюнак. Быў апрануты ў белую байку з капюшонам, чорныя спартовыя штаны, чорныя красоўкі, цёмную майку.

**КМ**

Тэлефоны, па якіх можна паведаміць інфармацыю пра хлопца: (02152) 4 12 02, (02152) 4 13 04, (029) 597 00 66.

# Трагедыя ў Налібаках

**Жанчына паслізнулася і ўдарылася галавой. Знайшлі яе нежывой уранку.**

У мінулую сераду ў Налібаках, што ў Стаўбцоўскім раёне, пахавалі жанчыну перадпенсійнага веку. Яна трагічна загінула на ўласным падворку ў ноч на 30 студзеня. Пра акалічнасці здарэння расказалі суседзі.

Раніцай у суботу жанчына правяла свайго мужа ў Мінск. У яго выявілі рак. Бацьку ў сталіцу павезла дачка. Усяго ў сям'і дзве дачкі — 29 і 30 год. Суседзі расказваюць, што жанчына моцна перажывала за мужа. У той дзень казала, што без яго жыць не будзе, памрэ.

Увечары яна вырашыла праць бялізну. Пайшла на двор, там паслізнулася і ўдарылася галавой. Раніцай яе нежывой знайшла сяброўка, якая вярталася з касцёла. Людзі кажуць, што перад смерцю жанчына спрабавала ўстаць — на снезе вакол цела былі сляды рук. У яе было хворае сэрца.

Дом жанчыны стаіць у цэнтры вёскі, двор — як на далоні. Калі б тое здарылася ўдзень, то аднавяскоўцы абавязкова б заўважылі.

Суседзі расказваюць, што памерлая была добрай жанчынай, часта дапамагала ім. Працавала на ферме ў мясцовай аграбудфірме.

**Сямён Печанко**

## Сціслa

### У Талачынскім раёне ў аварыі загінулі ўкраінскія гастарбайтары

Яны ехалі на будоўлю ў Маскву з Львова. Украінцы ехалі на мінівэне Mercedes Vito. Па словах кіроўцы, наперадзе ехала малдаўская фура. У пэўны момант грузавік узняў за сабой у паветра сцяну снегу. Кіроўца мінівэна не паспеў зрэагаваць. У аварыі загінулі два пасажыры, якія сядзелі спераду. Шэсць чалавек з траўмамі трапілі ў бальніцу.

Гэта трэцяе сур'ёзнае ДТЗ з пачатку года з удзелам украінскіх грамадзян на тэрыторыі Беларусі. У папярэдніх здарэннях абышлося без ахвяр.



AUTO.ONLINER.BY

### Упала на рэйкі ў метро

Здарэнне адбылося 3 лютага ў 20.19 на станцыі метро «Кастрычніцкая». 40-гадовай мінчанцы раптам стала дрэнна, і яна звалілася на рэйкі. Жанчыну паднялі на платформу супрацоўнікі міліцыі. З ударам каленнага сустава яна трапіла ў бальніцу. Вялікай затрымкі ў руху цягнікоў не адбылося. Напружанне на рэйках адключылі толькі на сем хвілін.

### Гандляваў псеўдаасятровай ікрой

У злачынстве падазраюць грамадзяніна Расіі. Па дадзеных праваахоўнікаў, мужчына 1,5 года незаконна займаўся прадпрымальніцтвам: прадаваў ікру нібыта асятровых відаў рыб у Мінску. Атрымаў даход у памеры Br50,1 млн. Тавар не вырабляў, а выкарыстаў імітацыю ікры, якую афіцыйна вырабляюць у Санкт-Пецярбургу з дадаваннем мяса асятра. А этыкеткі выкарыстоўваў ад сапраўднай асятровай ікры Астраханскага прадпрыемства.

**КМ**

# Алексіевіч: «Нельга расстраляць чалавека, які прамаўчаў увесь суд»

Пісьменніца Святлана Алексіевіч разважае пра прысуд па справе тэракту і праблему **смяротнага пакарання** ў Беларусі.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Святлана Алексіевіч**

нарадзілася 31 мая 1948 у Івана-Франкоўску (Украіна). Разам з сям'ёй пераехала ў Беларусь, дзе атрымала журналісцкую адукацыю. Пяць кніг, напісаных Алексіевіч, выйшлі вялікімі накладамі на розных мовах. За кнігу «У вайны не жаночае аблічча», напісаную ў 1985 годзе, Алексіевіч летась атрымала прэстыжную прэмію «Ангелус». Апроч таго Алексіевіч — лаўрэат шматлікіх еўрапейскіх і амерыканскіх прэмій. З пачатку 2000-х жыве ў Еўропе, але рэгулярна прыязджае ў Беларусь.

**«Наша Ніва»: Хутка мае быць вырашаны лёс асуджаных Канавалава і Кавалёва. Наколькі апраўданым быў, на Вашу думку, такі жорсткі прысуд ім?**

**Святлана Алексіевіч:** Людзі цяпер не могуць абараніцца ад зла сучаснага свету, якое робіцца больш вышуканым, больш нечаканым. Тэрарызму ў Беларусі зусім ніхто не чакаў, мы маленькая краіна, заціснутая ў цісках дыктатуры. Ніхто не думаў, што тут можа здарыцца класічны тэракт. Канавалаў — хто ён? Адзіночка альбо за здзейсненым стаяць нейкія інтарэсы? Праўду мы даведаемся яшчэ вельмі няхутка. Тое, што гэты тэракт — разборка адзінокага чалавека са светам, відавочна: па тым, як паводзіць сябе ягоная сям'я, па тым, што ён маўчыць на працэсе... Гэта пакідае шмат пытанняў. Як і тое, што казаў адвакат Кавалёва, — пра мантаж відэа з метро, напрыклад.

Кажуць аб праблемах псіхікі ў Канавалава. Тады патрэбная дапамога псіхааналітыка. Але нельга расстраляць чалавека, які прамаўчаў увесь суд. Сучаснае грамадства не ўспрыме расстрэлу, калі яно не давярае следству — нават калі для найвышэйшай меры ёсць юрыдычныя падставы. Бо калісьці нармальным лічылася есці іншых людзей, калісьці смяротнае пакаранне адбывалася на плошчы... Мы недалёка ад гэтага адышлі.

І абсалютна незразумела, чаму рэчавыя доказы трэба так хутка знішчыць — у такой справе, дзе кропкі канчаткова не расстаўленыя...

**«НН»: Грамадства, як паказваюць абмеркаванні справы тэракту ў незалежных СМІ, не мае адзінай пазіцыі наконт смяротнага пакарання.**

**СА:** Сама наяўнасць такой дыскусіі паказвае, што грамадства хворае ад доўгага знаходжання ў заціснутым стане. Адны баяцца страціць працу, іншыя — што іх выкінуць з

**Нельга аддаць уладу выключна палітыкам** »

універсітэта, калі яны будуць казаць тое, што думаюць, ці выйдуць на Плошчу. Чакаць ад такога грамадства нармальнай чалавечай рэакцыі не даводзіцца.

У людзей не еўрапейскае светаўспрыманне, яны як куфры з забабонамі — савецкімі, царскімі, правінцыйнымі. Мы, знаходзячыся спачатку ў савецкім часе, а пасля ў дыктатуры, якая робіць стаўку на сілу, перасталі развівацца. Можна казаць што заўгодна пра савецкі час, але тады выдаваўся Швейцэр, які пісаў пра павагу да чалавечага жыцця, і вакол яго дыскутавалі. Хто сёння пра гэта гаворыць? Сёння кажуць толькі пра тое, які дрэнны Лукашэнка, але ў мяне шмат пытанняў і да нашага грамадства.

У грамадстве назбіралася велізарная колькасць агрэсіі — гэта кажа пра тое, што людзі не праходзяць тую дарогу, якую праходзіць ва ўсім свеце прагрэсіўны чалавек. Калі б хто-небудзь у Еўропе выказаўся ў тым духу, што з двума хлопцамі трэба зрабіць вось такім чынам, яго б ніхто болей ніколі не ўспрыняў сур'ёзна. Дзякуй і на тым, што расстрэл не будзе адбывацца на галоўнай плошчы і народ не будзе сабраны.

**«НН»: Наколькі рэальная магчымасць памілавання Канавалава і Кавалёва?**

**СА:** Я думаю, што маскоўскія падзеі на Балотнай ці Сахарава палохаюць нашую ўладу. А яе свядомасць такая, што, апроч сілы, яно не ведае іншых шляхоў размовы з грамадствам. І вось праз гэты страх расстрэл будзе выкананы.

Я схільная думаць, што ў гэтых хлапцоў віна ёсць. Але выносіць смяротны прысуд — гэта дадаваць агрэсіі грамадству. Асабіста я не прымаю смяротных прысудаў. Кветку шкада, прусака, што ўжо казаць пра чалавека, які заблукаў.

Ёсць форма пажыццёвага зняволення — хай чалавек размаўляе з Богам, хай працягваецца расследаванне. Да асуджаных не дапусцілі журналістаў... Быў такі прыбалтыйскі фільм, рэжысёра Франка, пра чалавека, якога прысудзілі да смяротнага пакарання. Там былі страшныя злачынствы. І рэжысёр правёў два месяцы з асуджаным. І калі глядзіш гэты фільм, бачна, што чалавек прайшоў праз раскаянне. Чалавеку трэба пакідаць гэты шлях.

**«НН»: Але ці раскайваецца чалавек, атрымаўшы пажыццёвае?**

**СА:** Я была ва Уладзімірскім цэнтрале ў Расіі, дзе сядзяць асуджаныя пажыццёва. Нават у Ташкенце падчас вайны, дзе ляжалі хлопцы, якія засталіся без рук і ног, і ад якіх адмовіліся сваякі, я не бачыла такіх вачэй, якія былі там. Асуджаныя ішлі шэрагам, і па вачах было бачна, што яны праходзяць шлях раскаяння.

**«НН»: Падобная дыскусія ідзе ў інтэрнэце вакол сітуацыі з нарвежскім тэрарыстам Брэйвікам. Выказваецца абурэнне «лёгкім» прысудам, умовамі жыцця ў турме, куды ён трапіў — у Беларусі многія не жывуць так на волі.**

**СА:** На Захадзе нікому ў галаву не прыходзіць, што нават да такога страшнага чалавека можна ставіцца не як да чалавека.

У нас усе чакаюць, памілуе Лукашэнка асуджаных ці не, а грамадства маўчыць — хіба што ў блогах з'яўляюцца допісы. Пра Брэйвіка ж размаўляе ўся Нарвегія — там, пачынаючы з караля, усе абмяркоўваюць гэтую тэму, але не на кухні за гарбатай, а на грамадскіх пляцоўках. У выніку чалавек, які выносіць канчатковае рашэнне, абапіраецца на грамадства. Уладу варта кантраляваць, яе нельга аддаць выключна палітыкам.

Нашае грамадства прыціхла, і не толькі ў сувязі са смяротным пакараннем. Напрыклад, настаўніца Ільініч, якая пасля Плошчы не можа ўладкавацца нават паштальёнам, а яна чалавек з вышэйшай адукацыяй — мала хто выступае ў яе абарону.

**Ёсць форма пажыццёвага зняволення — хай чалавек размаўляе з Богам** »

У справе тэракту мяне ўразіла адна рэч. Уявіце: маці Кавалёва жыла ў сям'і пацярпелых ад тэракту; гэта кажа пра тое, што людзі знаходзяцца на больш высокім узроўні, чым улада. Людзі гатовыя мяняцца, расці.

**«НН»: Што трэба зрабіць, каб стаўленне да смяротнага пакарання змянілася?**

**СА:** Па-першае, у краіне мусіць быць дэмакратычная ўлада, па-другое, зусім іншая сістэма працы з людзьмі — пачынаючы ад школы і ўніверсітэта трэба даваць людзям іншыя ўстаноўкі. Цяпер, як і ў савецкі час, выхоўваюць чалавека-вінціка: гэта ж смешна, калі ўся краіна пачынае па загадзе зверху дружна збіраць нейкія анучы і металалом. Я бачыла ў Кітаі домны, у якіх кожная вёска варыла метал — калі кітайская ўлада дала ўстаноўку, што трэба перагнаць Амерыку. Мне здаецца, што мы рухаемся ў той бок.

**Гутарыў Юрась Ускоў**

## Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Гедройца атрымае 105 мільёнаў рублёў

Літаратурная прэмія імя Ежы Гедройца, заснаваная сёлета пасольствам Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь, Польскім Інстытутам у Мінску, Беларускім ПЭН-Цэнтрам і Саюзам беларускіх пісьменнікаў, будзе ўручацца штогод аўтару найлепшай кнігі прозы.

На прэмію можа намінавацца любая кніга, выдадзеная цягам года. Абавязковая ўмова — беларускамоўнасць.

У шорт-ліст першай прэміі ўвайшлі вельмі розныя кнігі: сюррэалістычная проза Касцюкевіча, дакументальны раман Лукашука пра жыццё Лі Харві Освальда ў Мінску, правакацыйны кінараман Ахроменкі і кніга пра сучаснае мастацтва і «вайну» Клінава.

Якая з кніг будзе прызнаная найлепшай, мы даведаемся 3 сакавіка. Будзе абраная тройка фіналістаў, але толькі адзін з аўтараў атрымае галоўную прэмію і грашовы прыз — 105 мільёнаў рублёў.

У журы прэміі ўваходзяць пісьменнікі Уладзімір Арлоў і Барыс Пятровіч, філосаф Валянцін Акудовіч, крытыкі Людміла Рублеўская і Маргарыта Аляшкевіч, перакладчык і старшыня Польскага ПЭН-Клуба Адам Паморскі, дырэктар Польскага Інстытута ў Мінску Пётр Казакевіч. Ганаровы старшыня журы — пасол Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка.

**ЮУ**

**Шорт-ліст прэміі імя Гедройца**

1. Уладзіслаў Ахроменка «Тэорыя змовы»
2. Альгерд Бахарэвіч «Малая медычная энцыклапедыя Бахарэвіча»
3. Павал Касцюкевіч «Зборная РБ па негалоўных відах спорту»
4. Артур Клінаў «Шалом: ваенны раман»
5. Аляксандр Лукашук «След матылька. Освальд у Мінску»
6. Андрэй Федарэнка «Мяжа»

## Сцісла

### Пракуратура вырашыла не заводзіць справу на Міхалка

Пра гэта гаворыцца ў лісце з пракуратуры Мінска, які атрымала адвакат музыканта. Праверка была ініцыяваная па факце выказванняў Міхалка ў адрас Аляксандра Лукашэнкі, у якіх ён жорстка крытыкаваў кіраўніка Беларусі.

### Кніг на беларускай мове — 10%

«Беларускамоўных кніг у нас выдаецца прыкладна 10%. Гэта лічба з'яўляецца адлюстраваннем моўнай сітуацыі», — заявіла першая намесніца міністра інфармацыі Лілія Ананіч на прэс-канферэнцыі ў Мінску. Дзяржаўныя выдавецтвы выпускаюць прыкладна 120 кніг па-беларуску ў год.

**СМ**

# Мільянер з Малінаўкі

**Вось так, шаноўнае спадарства, хачу падзяліцца сваёй радасцю: з учарашняга дня я стаў мільянерам! Фельетон.**



PHOTO BYMEDIA.NET

Пайшоў на пошту атрымліваць пенсію, а там маладая дзяўчына выдае мне больш за мільён рублёў.

У мяне ажно дыханне перахапіла. Ледзь не подбегам кінуўся да сваёй кватэры, не распранаючыся, пералічыў грошы ажно тры разы і не мог супакоіцца... Гэта ж трэба — адзін мільён і яшчэ дваццаць пяць тысяч, якраз на бутэльку гарэлкі, каб замачыць з суседам такую падзею.

І ўсё гэта дзякуючы нашаму нястомнаму кіраўніку дзяржавы — Аляксандру Рыгоравічу. Дзе, у якой краіне, назавіце мне яе хутчэй, пенсіянер атрымлівае больш за мільён грошай.

Можа, у хвалёнай Амерыцы хтосьці мае мільён даляраў? Ды там і за месяц ніхто такіх грошай зарабіць не змога! А возьмем Італію, Францыю — і не мараць пра такое іхнія жыхары.

А ад нашых апазіцыянераў толькі і чуеш: дрэнна жывём, цэны растуць, выбары прэзідэнцкія Ярмошына падтасавала... Нічога такога не было!

Ды я і сам у пошуках жонкі і працы штогод улетку шастаю па Беларусі на сваім «Турысце», то рознага наслухаўся.

Аднойчы пад Баранавічамі, у невялікай вёсачцы, разгаварыўся з адной бабулькай, то яна прама сказала: «Я падала голас за Рыгоравіча, а пра другіх і ўспамінаць не хачу!»

**Устанавіць пазалочаны дзесяціметровы помнік першага прэзідэнта ля ўвахода ў Адміністрацыю.**

І тут я ёй нагадаў, што сярод іншых прэтэндэнтаў былі таксама прыстойныя асобы і назваў прозвішча Някляева. Бабулька адразу ж ускрыкнула: «Бачыла яго па тэлевізару! Твар пераконшаны ад злосці, і толькі адно крычаў: На плошчу! На плошчу!»

Асабіста я, у адрозненне ад гэтай бабулькі, з павагай адношуся да ўсіх тых кандыдатаў, якія прайгралі выбары. Але хачу вось што тут сказаць: кожны з іх у сваёй вобласці мог бы прынесці вялікую карысць для нашай рэспублікі.

Не такая салодкая пасада — быць прэзідэнтам любой краіны. Аляксандр Рыгоравіч выкручваецца як той мянтуз на патэльні... Кожны дзень знаходзіцца між молатам і накавальняй. А што паробіш — трэба выцягваць на сушу пагрузлы ў балоце воз...

Кожны дзень можна чакаць падножкі. Дасі зёву — імгненна рэспубліка апынецца на каленях, а падняцца пасля не так і проста. І калі хтосьці там шэпча на кухні, што Аляксандр Рыгоравіч трымаецца за ўладу, то я ім не веру. Проста цяпер няма ў рэспубліцы чалавека, які змог бы яго замяніць.

Я толькі вельмі здзіўляюся нашым народным абраннікам — дэпутатам. Аляксандр Рыгоравіч без малога дваццаць гадоў працуе ў поце, а яны не падумваюць, каб чым яго ўзнагародзіць. Магчыма, так запрацаваліся, што забыліся пра галоўнае. То я ім нагадаю, што патрэбна тэрмінова зрабіць.

1. Прысвоіць Аляксандру Рыгоравічу званне Героя Беларусі.

2. Перайменаваць праспект Незалежнасці ў праспект імя Лукашэнкі.

3. Устанавіць пазалочаны дзесяціметровы помнік першага прэзідэнта ля ўвахода ў Адміністрацыю. Такі ж, толькі крыху меншы, на яго радзіме ў Шклове.

4. Заснаваць грашовую прэмію імя А.Р.Лукашэнкі ў памеры 500 мільёнаў рублёў.

Асабіста я са сваёй пенсіі, а калі пашчасціць знайсці яшчэ і працу, то буду дапамагаць хворым дзеткам і нават падумваю аб тым, каб пасылаць крыху грошай галадаючым у Афрыку.

Мне хтосьці можа супярэчыць, што я вельмі расхваліў прэзідэнта, а цэны штодня растуць і спыняцца не думаюць...

Не ад прыхаці прэзідэнта растуць цэны. Наадварот — ён загадвае спыніць іх любой цаной. Ростам цэн Усявышні дапамагае нам падрыхтавацца да вечнасці... Тут хочаш не хочаш, а будзеш пасціцца.

Бачыце, як у свеце ўсе падзеі звязаны між сабою нябачнаю ніткаю. І яшчэ адна карысць ад росту цэн на ежу ў тым, што беларусы стануць самымі прыгожымі на свеце: падцягнутыя, спартыўныя, ледзь не кожны будзе рэзаць у хакей, а то і ў валейбол ці футбол.

Ёсць у Аляксандра Рыгоравіча і памылкі. А ў каго іх няма? Адказ вядомы — хто не працуе. Трэба пачаць патроху выплачваць «згарэўшыя» грошы насельніцтву ў былым Саюзе. За адну тысячу тых рублёў — тысячу даляраў.

Спачатку выплаціць тым, каму споўнілася сто год, потым дзевяноста і так далей. Паўстае пытанне: дзе браць грошы? Адказ вельмі просты.

На працягу месяца скасаваць усе дамовы з замежнымі трэнерамі і легіянерамі.

Аляксандр Рыгоравіч! Няўжо мы настолькі разбагацелі, што можам выплачваць ім мільёны даляраў у год?!

Цяпер некалькі слоў пра Паўла Севярынца. Паверце майму прадбачанню — гэта будучы прэзідэнт нашай рэспублікі! Вы яшчэ год пятнаццаць пратрымаецеся пры ўладзе, то ён вас і зменіць. Павел Севярынец і з твару на вас вельмі падобны, а вусы — валасок у валасок.

Аднойчы, калі я ехаў з Жыровіцкага манастыра на сваім «Турысце», то, спыніўшыся ў дзеда Кузьмы, паказаў яму здымак Севярынца ў газеце. То дзед Кузьма прама сказаў: «Фартовы хлопец! Далёка пойдзе. Можа стаць не толькі міністрам, але і прэзідэнтам, год так праз пятнаццаць».

Бачыце, як мне падаецца, дзед як у ваду глядзеў. Яно ж так можа і атрымацца. А для гэтага патрэбна не толькі вызваліць Паўла Севярынца, але і адправіць яго за кошт дзяржавы за мяжу, каб вывучаў там эканоміку і англійскую мову. Пасля прызначыць яго намеснікам міністра, каб крыху «прыцёрся» пры ўладзе, а там і выбары.

І калі Вы цяпер хуценька выправіце гэтыя памылкі, то нашай апазіцыі, ды і ўсім нядобразычліўцам на Захадзе, не будзе чаго сказаць. Змоўкнуць, як у рот вады набраўшы. І вось тады, як любіць паўтараць дзед Кузьма: «Цаны Вам не будзе!»

**Павел Савоська, Мінск**

# Беларуская глыбіня. Дакрычацца да нябёсаў

Піша **Павел Севярынец**.

*...Паўстань! Паўстань!*
*Заспявай песню!*
*Суддзяў 5:12*

Пружаны — рэдкі беларускі горад, дзе цэнтральная вуліца называецца імем Галоўнага Земляка. Райвыканкам, помнік Леніну, гарадскі кінатэатр, найбуйнешы храм і, канечне, музычная школа стаяць на вуліцы Рыгора Шырмы.

Рыгора Раманавіча тут сапраўды памятаюць: шыкоўны канцэрт да ягонага 120-гадовага юбілею сабраў сотні пружанцаў, а верш Ніла Гілевіча «Сэрца Дзядзькі Рыгора» мне на складзе дэкламавалі напамяць:

Колькі птахаў пявучых
у родных лясах,
Колькі нот непаўторных у іх галасах,
Колькі тонаў, адценняў,
ладоў, пераробаў —
Столькі песень у сэрцы
ў Дзядзькі Рыгора.

Менавіта Рыгор Шырма разгледзеў і захаваў у беларускасці геній Міхася Забэйды-Суміцкага.

Менавіта Шырма за свае сродкі выдаў першы паэтычны зборнік Максіма Танка «На этапах» і напісаў да яго прадмову (наклад сканфіскавалі).

Менавіта Шырма быў настаўнікам спеваў у знакамітай Віленскай беларускай гімназіі — і выхавацелем у яе інтэрнаце.

Гэта Шырма сабраў больш як 2000 беларускіх народных спеваў ва ўнікальную калекцыю, перасылаў ноты найвядомейшым кампазітарам — і беларускія гармоніі ў аранжыроўках адгукаліся ў Францыі, Расіі, Польшчы, Канадзе.

Гэта ён, Рыгор Шырма, арганізаваў Беларускую акадэмічную харавую капэлу...

Беларускія народныя мелодыі, вылаўленыя ім у кіпені першай паловы XX стагоддзя, пераліваюцца і калышуцца рэхам у спеўных цудах другой паловы — «Песнярах», «Сябрах», «Верасах».

За ім, за Шырмам, быццам за шырмаю ў камуналцы, і захаваўся куток беларушчыны, які не здолелі разрабаваць ап'янелыя, ашалелыя суседзі ды прыхадні.

Задаеш сабе пытанне і не даеш веры: як можна было, застаючыся глыбокім беларускім патрыётам ды вернікам, абараняючы мову, культуру ды правы народа, смела адказваючы на паклёпы («што тут беларускага ў гэтай прышлай Беларусі?» — зачытвалі дзядзьку Рыгору ягоныя словы пра БССР, занатаваныя стукачамі, следчыя), перажыць страшную эпоху рэвалюцыйнай калатнечы, польскай «санацыі», вайны, сталіншчыны, савецкага маразму, і пры гэтым тварыць, гучаць, нават не гучаць — крычаць беларускай песняй, каб урэшце яе пачулі ўсе!..

Беларуская песня ў шырмавым сэрцы прайшла і віленскія Лукішкі (бо, паводле дэфензівы, ніякіх беларусаў насамрэч не існавала, гэта ўсё былі выдумкі мінскіх бальшавікоў), і Лубянку (ад абвінавачванняў у безыдэйнасці ды буржуазнай апалітычнасці, а таксама нацыянал-дэмакратызме ўратаваў Якуб Колас, які хадайнічаў перад Панамарэнкам), каб урэшце пасяліцца на мінскай Плошчы Незалежнасці, у знакамітым доме, пад вокнамі якога зараз малітоўнікі штодня спяваюць «Магутны Божа».



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

За саветамі пра гэта маўчалі, але стварэнне першага хору, запіс беларускіх народных спеваў, дырыжорская майстэрства — словам, усё тое, у чым разгарнуўся Шырмаў магутны дар, — для яго пачалося ў царкве. Атрымліваецца, менавіта працуючы псаломшчыкам, а потым рэгентам хору Аляксандра-Неўскага сабора ў Пружанах у сярэдзіне 1920-х, якраз у найвышэйшай гармоніі літургіі, акафістах ды калядках Шырма пачуў тое, што называецца паклiканнем.

У 1923-м, згадваюць відавочцы, Рыгор Шырма разам са сваім першым (царкоўным!) хорам, бывала, больш за суткі праводзіў на нагах, без ежы і пітва: усяночныя, хросныя хады і малітвы, малітвы, малітвы... Дагэтуль у Пружанскім саборы па святах гучаць літургічныя спевы ў апрацоўцы Рыгора Шырмы.

Так беларусы спяваюць у неба. Вось чаму беларускія мелодыі такія працяглыя, жаласныя або знадрыўныя. Для нас, усведамляем мы гэта ці не, галасавыя звязкі — сувязь паміж небам і зямлёй. Спроба дакрычацца да Бога. Бо мы глыбока. Бо Ён далёка.

Рыгор Шырма вырашыў дакрычацца да нябёсаў хорам. Так, каб мог падпяваць увесь люд.

Для беларусаў спадчына Шырмы неацэнная. Нацыя павінна спяваць, спяваць разам, гэта адзін з асноўных законаў патрыятызму. Але тут, у беларускай глыбіні, нават адзін чалавек, гатовы дакрычацца да нябёсаў пры агульным цяжкім маўчанні, можа быць упэўнены: хай не падхопяць сучаснікі — затое пачуе Бог.

*Куплін*

**Хай не падхопяць сучаснікі — затое пачуе Бог**

# «Мала іх павесіць...», або Як лёгка чалавека можна зрабіць бесчалавечным

75 гадоў таму быў апублікаваны **ганебны верш Янкі Купалы**. Піша Анатоль Сідарэвіч.

23 студзеня 1937 у Маскве з працэсу «паралельнага антысавецкага трацкісцкага цэнтра» пачаўся Вялікі Тэрор. На лаву падсудных селі 17 чалавек.

Галоўнымі фігурантамі былі вядомыя бальшавікі Юры Пятакоў, Карл Радэк, Рыгор Сакольнікаў, Леанід Серабракоў і Мікалай Муралаў. Трынаццаці падсудным вынеслі смяротны прысуд, тры чалавекі (у тым ліку Радэк і Сакольнікаў) атрымалі па 10 гадоў, адзін — 8 гадоў турмы.

Разгляду справы (23 студзеня) папярэднічаў перадавы артыкул газеты «Правда» (21 студзеня). Пісаў яго сам генеральны сакратар.

Калі хто не ведае, як у СССР праводзіліся палітычныя кампаніі, тлумачу, што на старонках кожнай газеты ў падтрымку рашэння ўладаў павінен быў прагучаць голас усіх сацыяльных групаў: рабочых, калгаснікаў, чырвонаармейцаў, інтэлігенцыі.

**Купалу пагражалі, што арыштуюць Коласа і скажуць, што арышт учынены на аснове Купалавых паказанняў »**



Менш чым у 60 Купала выглядаў знішчаным, зломленым чалавекам.

«Нянавісць і абурэнне» — так называўся рэпартаж «Звязды» 26 студзеня з 2-тысячнага мітынгу на менскай (яшчэ менскай) швейнай фабрыцы «Кастрычнік». Рэпартаж з сесіі Акадэміі навук БССР называўся «Гнеў і абурэнне». Сэнс рэзалюцыі, прынятай вучонымі мужамі, — у двух сказах: «Сесія аднадушна патрабуе расстрэлу ўсёй гэтай банды фашыстаў. (...) Няхай жыве наш мудры правадыр і настаўнік вялікі Сталін!»

...Верш Купалы «Мала іх павесіць...» быў змешчаны ў «Звяздзе» 3 лютага. Праз пяць дзён пасля вынясення прысуду і праз два дні пасля расстрэлу асуджаных.

Купалава пляменніца Ядвіга Раманоўская апавядала, як паэта прымушалі напісаць гэты верш: пагражалі, што арыштуюць Якуба Коласа і скажуць яму, што арышт учынены на аснове ягоных, Купалавых, паказанняў. Верыць ці не верыць — кожны вырашае сам, але трэба згадзіцца, што заклік 3 лютага быў ужо запознены.

Верш датаваны 29 студзеня, а гэта дзень, калі вынеслі прысуд. Чаму не апублікавалі раней? Няўжо «Звязда» атрымала яго толькі 2 лютага? Ці сапраўдная дата пад вершам?

Што Купала пісаў верш без натхнення, падказвае тое, што праз год, калі будуць судзіць за «праватрацкісцкі блок» Мікалая Бухарына ды іншых, на падстрахоўку мабілізуюць Якуба Коласа. І ён напіша верш «Ачысціць радзіму ад гнойнай заразы».

Так сістэма тэрору прымушала людзей дэманстраваць сваю «падтрымку». Каб пасля перамалоць і тых, што падтрымалі.

**Да працэсу над бандай трацкістаў-дыверсантаў**

Мала іх павесіць
На сухой асіне,
Бо нават асіна
Ад сябе адкіне.
Дзерава адкіне,
Дзерава сухое,
Сябе не спаганіць
Поскуддзю такою.
Прадавалі немцу,
Немцу ды японцу
Нашую радзіму,
Долі нашай сонца.
Пятакоў і Радэк,
Троцкі — ўся арава —
Хлёбалі, зладзюгі,
З адной міскі страву.
Страву, што ім Гітлер
Варыў смачна, ласа,
Страву, што мікада
Запраўляў закрасай.
Гандляры айчынай
Па чужым заказу…
Вынішчыць дашчэнту
Гэтую заразу!

*

Ураздроб, агулам
Намі гандлявалі —
Па цане даступнай,
Па цане крывавай.
Дынаміт і порах
Запускалі ў дзела, —
На шматкі хай рвецца
Народнае цела!
Плача горка ўдоўка,
Плача горка маці
Па забітым мужу,
Спаленым дзіцяці.
Спіце вы, нявінна
Згінуўшы, ахвяры!
Пакараем катаў
Самай лютай карай!

*

Пятакоў і Троцкі,
Муралаў і Радэк
Пакінуць хацелі
Царскі нам парадак.
Не вам, інтэрвенты,
Шпегі, дыверсанты,
На прыстані нашы
Выпускаць дэсанты.
Не вам край савецкі
Знішчыць,
крывапіўцы…
У нашых чэкістаў
Зоркія зраніцы!

*

Чуй, народ савецкі,
Чуй, мая радзіма!
Сваёй долі, волі,
Чуй, не аддадзім мы!
Будзеш векі жыці,
Зямелька саветаў,
На радасць, на шчасце
Працоўнаму свету.
Ворагаў зніштожыш,
Хатніх і замежных,
Сонцам апранешся,
Як табе належна.
Мы ідзем наперад
Пераможна, ў сонцы…
Глядзіць яно ярка
У нашыя аконцы.
Засяваць мы самі
Будзем нашы нівы,
Збіраць самі будзем
Ураджай шчаслівы.
Хай пад сонцам
знаюць,
Чым мы сёння сталі…
Мы падставім грудзі
За цябе, наш Сталін!

Мінск. 29 студзеня 1937 г.

**Ад рэдактара.** Янка Купала напісаў гэты верш маральна зломленым, пасля таго, як над ім самім навісла пагроза знішчэння саветамі. Ён яшчэ не ведаў, што пік людабойства наступіць пазней. Калі на пачатку 1937-га судзілі асобных «кіраўнікоў змовы», верш супраць якіх і заказалі паэту, то пад восень 1937 года будзе знішчана татальна ўся эліта беларускай нацыі: ад міністраў да паэтаў, у рытме соцень чалавек у дзень, каб у паняволенай краіне не засталося нікога, здольнага ўзначаліць супраціўленне. Аналагічна дзейнічалі ў заваяваных краінах нацысты.

**Водгук**

# А дзе ж тады Беларусь?

Піша гісторык **Алег Латышонак**.

«Знайсці Лаўрышаўскі манастыр — значыць з пэўнасцю даведацца, якія землі называлі «Літвой», — сцвярджаецца ў артыкуле «І дзе ж тады Літва?» («НН» №2'2012), прысвечаным раскопкам у Лаўрышаве над Нёманам, падчас якіх экспедыцыя пад кіраўніцтвам прафесара Сяргея Рассадзіна выявіла культурны слой другой паловы XIII ст. Крыху здзіўляе толькі даказванне Рассадзіным, што «тут была не Літва па Ермаловічу, а праваслаўная Русь», і тое, што ён абрынуўся на археолагаў, якія быццам бы шукалі манастыр там, дзе «заведама немагчыма знайсці сляды праваслаўнай старажытнарускай культуры».

Я не разумею, пра што Рассадзін. Ніхто ж і ніколі не сумняваўся ў праваслаўнасці ні Войшалка, ні Лаўрышаўскага манастыра, але ж адкрыццё місійнага рускага манастыра ніяк не сведчыць пра рускі характар зямлі, на якой ён быў фундаваны. Тым не менш, каментар у журналістаў «НН» атрымаўся ў падобнай паэтыцы. Паводле іх, «на думку большасці даследчыкаў, у той час у раёнах на правым беразе Нёмана яшчэ гаварылі па-балцку і трымаліся сваіх старых багоў». Няма ведама, адкуль аўтары ўзялі гэтую «большасць». Наўрад ці хто сур'ёзны адважыцца выказвацца ўпэўнена наконт мовы, на якой гаварылі тады над Нёманам. Затое можна сказаць упэўнена, што большасць даследчыкаў мяжу Навагрдскай зямлі праводзіць не па Нёмане, а ў пэўнай адлегласці ад правага берага гэтай ракі.

Ва ўсім гэтым даказванні, дзе была Літва, а дзе праваслаўная Русь, губляецца найважнейшае (прынамсі для мяне) пытанне: а дзе ж тады Беларусь? Пытанне якраз вельмі актуальнае, калі гаворым пра Лаўрышаўскі манастыр, яго заснавальніка Войшалка і навяртанне ў хрысціянства літоўцаў.

Назва «Белая Русь» была першы раз запісаная як Alba Ruscia менавіта пры жыцці Войшалка ананімным каталіцкім місіянерам у геаграфічным трактаце «Апісанне зямель». Аўтар трактата, апісваючы, як карэлы прымаюць чужынцаў, напрыклад, купцоў, расказвае: «Адзін з іх, слухаючы брата Вайслана, майго таварыша, які прапаведаваў на Белай Русі, заклікаў яго ісці з ім да згаданых карэлаў, даводзячы, што, без сумнення, давёў бы іх да праўдзівага бога праз хрышчэнне і пры жаданні збудаваў бы там касцёлы».

**Назва «Белая Русь» была першы раз запісаная як Alba Ruscia ў геаграфічным трактаце «Апісанне зямель» (XIII ст.) »**

Пераклад Алеся Жлуткі, у якім я прцытаваў «Апісанне», — дасканалы прыклад таго, як прадузятасць уплывае на вынікі навуковай працы. Жлутка пераклаў лацінскае слова ecclesias як «касцёлы», што на беларускай мове абазначае выключна каталіцкія святыні. Нейтральны тэрмін, які абазначае хрысціянскую святыню —, гэта «царква», і лепш бы Жлутка скарыстаў менавіта гэтае слова.

Не здзіўляюся перакладчыку, бо я сам, як і ўсе іншыя даследчыкі, разглядаў «Апісанне зямель» выключна ў кантэксце каталіцкай місіі сярод балцкіх народаў. Каталіцкае веравызнанне Ананіма не падлягае дыскусіі, але не тоеснасць Вайслана. Частка польскіх вучоных схільная бачыць у Вайслане паляка Войслава, а торуньскі даследчык Яраслаў Вента адшукаў нават нейкага Войслава сярод францысканцаў, якія ў той жа час аддалі жыццё за веру ў Прусіі. Тым не менш нават прачытанне імя Вайслан як Войслаў не робіць з яго паляка. Вось як кракаўскі летапіс паведамляе аб смерці Войшалка: «Князь Леў, сын караля Русі Данілы, забіў Войслава, сына літоўскага князя Міндаўга». Такім чынам, Войшалк для польскага летапісца — менавіта Войслаў. Для Алеся Жлуткі гэта доказ славянскасці Войшалка, але для мяне важна адно: будзь ён балтам, будзь славянінам, яго імя магло быць запісанае і як Вайслан/Вайслаў.

Пытанне толькі, ці мог каталіцкі місіянер назваць братам і таварышам праваслаўнага місіянера? Адказаць на гэта можна толькі апасродкавана, паказваючы агульны фон падзеяў. Ананім лічыць, што Еўропа падзяляецца на дзве часткі: Заходнюю і Усходнюю царкву. Ён далучае праваслаўных да саборнай Царквы. Гэта дазваляе бачыць у ім адну з асобаў, якія мелі дачыненне да экуменічнай акцыі ў Галіцка-Валынскім княстве, у выніку якой князь Даніла Раманавіч прызнаў уладу Папы на Ліёнскім саборы ў 1247 г.

Духоўным правадыром Войшалка як праваслаўнага манаха быў ігумен Рыгор, які прадстаўляў інтарэсы Данілы Галіцкага і яго дзяржавы на тым Ліёнскім саборы. Войшалк выступіў супраць Данілы толькі пасля таго, як той падпарадкаваўся татарам. Акцыя татараў мела нават не палітычнае, а большае, цывілізацыйнае вымярэнне: яны лічылі, што Русь — частка Усходу і павінна належаць ім (чытай — Еўразіі), а не праваднiку Захаду — Папу. Войшалк, пакідаючы Лаўрышаўскі манастыр, праўдападобна, кіраваўся прыватнымі матывамі, якія з веравызнаннем не мелі нічога супольнага, а яго праваслаўнасць у далейшым не падлягае дыскусіі. Тым не менш, у вачах Ананіма, які не ведаў пра вераадступніцтва Міндаўга ў 1260 г., праваслаўны Войшалк мог бачыцца як заступнік Захаду ад нялюбых «тартараў», вершнікаў з пекла родам.

А калі Войшалк — гэта брат Вайслан, які навучаў у Белай Русі, дык у той жа Белай Русі, проста Беларусі, знаходзіўся Лаўрышаўскі манастыр і ўся Навагрдская зямля.



Гравюра з Лаўрышаўскага Евангелля, напісанага ў часы Войшалка.

## ТЭНІС

### Беларусь — Малдова

**10–12 лютага ў Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі па тэнісе (пр.Пераможцаў, 63)** адбудзецца сустрэча Беларусь — Малдова ў рамках Кубка Дэвіса. Уваход вольны.

## ІМПРЭЗЫ

### Месяц шведскай літаратуры

**12 лютага а 14-й у кнігарні «логвінаЎ» (пр.Незалежнасці, 37а)** у межах «Месяца шведскай літаратуры» адбудзецца ранішнік для дзетак з прэзентацыяй кнігі Юі Вісландэр «Мама Му чытае» ды Юі і Тумаса Вісландэраў «Малы і Білан», з удзелам аўтаркі Юі Вісландэр і яе беларускай перакладчыцы Надзеі Кандрусевіч, а таксама спевакоў Змітра Вайцюшкевіча і Галіны Казіміроўскай, якія запісалі кружэлку з Юінымі казкамі і песенькамі. Лялечны тэатрык Веранікі Фаміной «Лямцавая батлейка» прадставіць сваю версію Мамы Му.

**18 лютага а 14-й у кнігарні «логвінаЎ»** — прэзентацыя дзіцячай кнігі Ульфа Старка «Дыктатар» (папяровае выданне+электронная версія). Бяруць удзел аўтар, шведская літаратуразнаўца Яніна Арлоў, перакладчыцы Наста Лабада і Вольга Рызмакова.

### Баль-маскарад

**11 лютага а 18-й у кавярні «Планета зорак»**, якая знаходзіцца ў Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41) — баль-маскарад. Возьмуць удзел «Брэвіс», «Гістрыён», Gloria, «Турдыён», «Залаты двор», «Яварына».

## КАНЦЭРТЫ

### Джазавыя вечары

**9 лютага а 19-й на сцэне Вялікай залы Белдзяржфілармоніі** выступае швейцарскае трыа VEIN (Швейцарыя).

### Санорус

**11 лютага ў канцэртнай зале «Верхні горад» (пл.Свабоды, 25)** — музычная капэла «Санорус» запрашае публіку ў падарожжа ў рамантычны свет Амерыкі 30-х гадоў…

# Хакейны «Турнір чатырох» у Мінску




**10–11 лютага на «Мінск-Арэне» пройдуць хакейныя спаборніцтвы** на прызы BelSwissBank. Турнір будзе вельмі прадстаўнічым. Апроч гаспадароў турніра, у ім возьмуць удзел Славакія, Германія і Швейцарыя. У паўфіналах 10 лютага беларусы пазмагаюцца з немцамі (пачатак а 19-й), а швейцарцы са славакамі (15:30). На наступны дзень пераможцы згуляюць у фінале, а няўдачнікі разыграюць трэцяе месца. Білеты ад 15 да 120 тысяч рублёў.

### Сустрэча з вясной

**15 лютага а 19-й у Вялікай канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі** ансамбль «Камерата» прадстаўляе праграму «Сустрэча з вясной».

### Канцэрт да Дня Святога Валянціна

**13 лютага ў клубе «Салтайм» (пр.Незалежнасці, 131/1) а 19-й** — канцэрт гітарнай музыкі да Дня Святога Валянціна «Прызнанні». Возьмуць удзел Паліна Рэспубліка, «Нельга Забыць», «Верасень», White Night Blues, «3-Zna».

## ВЫСТАВЫ

### Уладзімір Сулкоўскі

**У Палацы мастацтваў (Казлова, 3) да 16 лютага** працуе персанальная юбілейная выстава Уладзіміра Сулкоўскага, прысвечаная 60-годдзю мастака. Ягоныя творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах Беларускага саюза мастакоў і Міністэрства культуры Расіі, Цэнтра беларускай культуры ў Гайнаўцы (Польшча).

### Іван Пратасеня

**У Палацы мастацтваў да 16 лютага** працуе персанальная юбілейная выстава Івана Пратасені, прысвечаная 80-годдзю мастака. У экспазіцыі прадстаўлена амаль 90 работ розных гадоў, жанраў і тэматык.

### Верацяно цішыні

**У Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47) да 11 лютага** працуе выстава мастацкага шкла Алены Атрашкевіч «Верацяно цішыні».

### Атрыбуты

**Да 11 лютага ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва** працуе выстава твораў Ганны Атаян (Львоў, Украіна) «Атрыбуты». Свет, старанна створаны львоўскай мастачкай Ганнай Атаян, запамінаеш з першага позірку і пазней беспамылкова пазнаеш у стракатасці любой выставы.

### Калядная выстава

**У Палацы мастацтваў** да 16 лютага працуе «Калядная выстава», дзе можна ўбачыць творы мастакоў, выкананыя ў самых розных тэхніках, на зімовую ці калядную тэматыку.

### Судакрананне

**Да 18 лютага ў галерэі візуальных мастацтваў Nova (Кульман, 2)** працуе выстава «Судакрананне. Праект Максіма Дасько» — першы персанальны праект маладога мінскага аўтара, чые творчыя пошукі прывялі да разумення асаблівага статуса негатыва ў фатаграфічным працэсе.

### Метамарфозы

**Да 12 лютага ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава піктаральнай фатаграфіі «Метамарфозы», прысвечаная 130-годдзю з дня народзінаў Льва Дашкевіча.

Піктаральная фатаграфія — адзін з напрамкаў мастацкай фатаграфіі. Пікталарысты праз гульню светлацені і складаным метадам друку ператвараюць фотакартку калі не ў карціну, то ў малюнак альбо гравюру.



### Шалкевіч прэзентуе «Песню пра каханне на цыраце»

Віктар Шалкевіч, чый стыль нельга акрэсліць адным музычным тэрмінам (тут і бардаўская песня, і гарадскі шансон, і танга, і блюз) выступіць у Мінску з праграмай найлепшых і новых песняў.

Звычайна разам з вялікім сольным канцэртам Віктар Шалкевіч праводзіць прэзентацыю кніг, ці дыскаў, ці проста новых песняў. Чаго чакаць аматарам ад канцэрта, «Наша Ніва» даведалася ў самога музыкі.

«Канцэрт будзе ў трох аддзяленнях, — кажа Шалкевіч. — У першым прагучаць старыя добрыя песні, у другім — абсалютна новыя песні, якія дагэтуль ніхто не чуў: “Песня пра каханне на цыраце”, ці “Песня камсамольца” — вельмі класная, дарэчы.

А ў канцы будуць таксама больш новыя песні, якія, праўда, вядомыя. Мы прыедзем утрох — з электрагітарай і фартэпіяна».

Канцэрт адбудзецца **10 лютага ў ДК БелТГ ім. Н. Ф. Шарко (вул. Уральская, 3, ст. м. Трактарны завод). Пачатак у 19.00.**

Даведкі пра канцэрт па тэлефоне: (29) 649-08-88. Квіткі ад 25 000 да 45 000 рублёў. Кропкі продажу: пераход ст.м «Плошча Я.Коласа», пераход ля ГУМа і іншыя касы горада.

**Юрась Ускоў**

## ТЭАТРЫ

### 9 лютага

**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»
**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядах»

### 10 лютага

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Беларускай драматургіі** — «Чайка»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядах»

### 11 лютага

**Лялек** — «Марозка»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Лялек** — «Кот у ботах»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядах»
**Беларускай драматургіі** — «Дарагая Алена Сяргееўна»

### 12 лютага

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Дзеці Ванюшына»

### 13 лютага

Купалаўскі — «Вячэра з прыдуркам»

### 14 лютага

**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»

### 15 лютага

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Беларускай драматургіі** — «Сонечка»
**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Спячая прыгажуня»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»

### 16 лютага

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Беларускай драматургіі** — «Мужчыны на мяжы нервовага зрыву»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Купалаўскі** — «Беларусь у фантастычных апавяданнях»

### 17 лютага

**Купалаўскі** — «Translations»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»
**Лялек** — «Вянчанне»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 18 лютага

**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Оперы і балета** — «Вяселле Фігара»

## КІНО

### Гавайскія гісторыі Джорджа Клуні

**Нашчадкі (The Descendants)**
ЗША, 2011, каляровы, 115 хв.
**Рэжысёр:** Аляксандр Пэйн
**Ролі выконваюць:** Джордж Клуні, Шэйлін Вудлі, Амара Мілер, Нік Краўзэ
**Жанр:** Сентыментальная драма з камедыйнымі элементамі
**Адзнака:** 5,5 (з 10)

Жонка багатага гавайскага землеўласніка трапіла ў кому, з якой ужо болей не выйдзе. Герой стужкі мусіць сабраць усіх сваякоў, каб яны развіталіся з паміраючай. Але стасункі бацькі з дочкамі складаныя. Да таго ж высвятляецца, што жанчына яшчэ мела палюбоўніка.

Карціна Аляксандра Пэйна, вылучаная на «Оскар» за рэжысуру, — трагікамічная гісторыя пра сямейныя каштоўнасці. Залітыя сонцам Гаваі кантрастуюць з трагедыяй, у якую трапіў герой Джорджа Клуні.

Герой з закадравымі развагамі, непаслухмяныя дочкі і нават нечаканы палюбоўнік — ветлівыя і карэктныя, як і мае быць у «Оскараўскай» карціне. Падманы завяршаюцца дараваннем, дачушка і бацькі мірацца. І нават тутэйшы гавайскі патрыятызм (у галівудскай абгортцы) шчасліва дэманструецца на экране.

**Андрэй Расінскі**



# Спартыўная экзотыка

Дзе ў Беларусі заняцца **гольфам, сквошам ці кёрлінгам**?

Спорт высокіх дасягненняў прыносіць пераможцам добрыя грошы. Футбалістаў і хакеістаў у краіне нямерана, але, калі пастарацца, можна зарабіць і ў іншых відах спорту. Некаторыя з іх карыстаюцца папулярнасцю на Захадзе, але ў Беларусь прыйшлі нядаўна. «Наша Ніва» расказвае пра экзатычныя віды спорту, якія могуць скарыць беларускіх заўзятараў.

### Тэніс у пакоі

Сквош — гульня, чымсьці падобная да тэніса. Вось толькі корт знаходзіцца не на адкрытай прасторы, а... у пакоі. Мяч трэба не перакідваць праз сетку, а біць аб сцяну, каб супернік не дагнаў яго. Гульня, у якой абодва спартсмены бегаюць па пакоі прыблізна 10х6 метраў, пастаянна сутыкаюцца, і пры гэтым яшчэ паспяваюць адбіваць ракеткай мяч, выглядае крыху камічна. Затое скінуць вагу можна лёгка. Пасля напружанага паядынку майку літаральна можна выкручваць.

Ледзь не адзіным месцам для занятку сквошам у Мінску застаецца OrangeClub на завулку Калініна, 16. Арэнда корта каштуе 50—85 тысяч рублёў за гадзіну ў залежнасці ад часу сутак. Яшчэ каля 20 тысяч давядзецца заплаціць за арэнду інвентару.

Міжнародная федэрацыя сквоша праводзіць перамовы, каб гэты від спорту быў уключаны ў праграму Летніх алімпійскіх гульняў, але пакуль марна.

### Сонечны футбол

Паблажлівую ўсмешку ў тых, хто займаецца «сапраўдным» футболам, часцяком выклікае пляжны футбол. Гэты від спорту таксама спрабуе прабіцца на Алімпіяду. У адрозненне ад сквоша, ён ужо знайшоў падтрымку на дзяржаўным узроўні. У бліжэйшыя гады ў краіне мусяць пабудаваць восем пляцовак для пляжнага футбола. Чатыры з'явяцца на Брэстчыне (у Брэсце, Кобрыне, Івацэвічах і Пружанах), тры — на Магілёўшчыне (у Магілёве, Кіраўску і Горках) і адна ў Гомелі. Кожная з іх будзе каштаваць бюджэту ад 100 да 300 мільёнаў рублёў, а гомельская — ажно 1 мільярд.

Зборная Беларусі ўжо прабілася ў дзясятку наймацнейшых каманд Еўропы, таму канкурэнцыя ў гэтым відзе спорту большая, чым у сквошы.

З уже існуючых пляцовак бліжэйшая да Мінска знаходзіцца на 5-м пляжы Заслаўскага вадасховішча. Ёсць палі і ў Полацку, Светлагорску і каля Кобрына. Вядома ж, пабегаць з мячом па пяску можна толькі ўлетку.



PHOTO BYMEDIA.NET

**У Беларусі ёсць свая зборная па кёрлінгу. Звычайна яна змагаецца за передапошняе месца з Андорай.**

### Слава прыбіральшчыц

Старажытная шатландская гульня кёрлінг, наадварот, лічыцца зімовай. На пацеху прыбіральшчыцам усяго свету спартмены-кёрлеры са шчоткамі, падобнымі на швабры, націраюць лёд перад спецыяльным каменем. Каб перамагчы, трэба запусціць гэты камень у бок пляцоўкі, а пасля дапамагчы прыкаціцца яму ў самы цэнтр. Гэты від спорту многія бачылі падчас Зімовых алімпійскіх гульняў. Але нашым прабіцца на Алімпіяду будзе складана — там выступае толькі 10 найлепшых зборных.

Навучаюць кёрлінгу пакуль што толькі на «Мінск-Арэне». Трэніроўка па бегу са шчоткамі каштуе 238 тысяч рублёў на групу з 4-8 чалавек. У гэтым відзе спорту прайгравац ьнапрыкра. Кажуць, што, згодна з традыцыямі, каманда-пераможца пасля гульні частуе сваіх былых супернікаў вячэрай у рэстаране.

### Заакіянскі госць

Амерыканскі бейсбол усё ніяк не можа здабыць сапраўднай папулярнасці ва ўсёй Еўропе, не кажучы асобна пра Беларусь. Мала хто можа зразумець правілы гэтай гульні, ад якой фанацеюць мільёны амерыканцаў. Хаця многія з дзяцінства памятаюць лапту — спрошчаны варыянт бейсбола.

**У пасёлку «Грынвіч» пад Мінскам з'явілася першае ў краіне поле для гольфа**

Тым не менш, свой чэмпіянат у Беларусі праводзіцца. Гульнёй, у якой трэба ўдарыць па мячу біткай, а пасля злавіць яго, займаюцца больш за 10 дарослых каманд, але ёсць і юніёрскія, і дзіцячыя. Дарэчы, чэмпіён краіны — каманда са Скідзеля з грознай назвай «Цукровы шторм».

Паглядзець на трэніроўкі і спаборніцтвы ў Мінску, каб вырашыць, ці цікавы для вас бейсбол, можна па адрасе: праспект Пераможцаў, 22.



**Спецыфіка беларускага бейсбола: сцягі Прэзідэнцкага спартыўнага клуба і Венесуэлы.**

### Забава для багатых

У верасні 2011 у некалькіх кіламетрах ад МКАД у Царскім сяле — катэджным пасёлку «Грынвіч» — адкрылася першае ў Беларусі поле для гольфа. Арыстакратычным відам спорту нарэшце змогуць заняцца нашыя багатыя суайчыннікі. Дарэчы, ужо на Алімпіядзе-2016 гольф з'явіцца ў праграме спаборніцтваў.

Уменне давесці мяч да лузы клюшкай цэніцца на Захадзе, дзе найлепшыя гальфісты варочаюць мільёнамі даляраў. Адпаведны і кошт трэніровак. За адзін занятак можна заплаціць $50—80 у залежнасці ад кваліфікацыі трэнера.

**Ягор Марціновіч**

**Тэлефанія**

## «Белтэлекам» змяніў тарыфы на званкі ў мабільныя сеткі

БЕЛТЕЛЕКОМ

Цяпер званкі ва ўсе сеткі будуць **каштаваць аднолькава**.

Нацыянальны аператар сувязі «Белтэлекам» змяніў тарыфы для абанентаў стацыянарнай сеткі, якія тэлефануюць на мабільныя тэлефоны. Цяпер кошт адной хвіліны званка на нумары абанентаў любой сеткі складзе 295 рублёў у працоўныя дні з 06.00 да 23.00. У астатні час — ноч, выходныя, святочныя дні — будзе дзейнічаць тарыф 199 рублёў за хвіліну.

Раней пры званках у розныя сеткі дзейнічалі розныя тарыфы. Даражэй за ўсё было званіць на Velcom (да 318 рублёў), а танней за ўсё — на Life:) (да 153 рублёў).

**ЯМ**

**Кіно**

## Закрываецца чарговы арткінатэатр

Прыватны 3D-кінатэатр выязджае з бізнэс-цэнтра **Rubin Plaza**.

Яго месца ў бізнэс-цэнтры Rubin Plaza на праспекце Дзяржынскага зойме «БПБ-Ашчадбанк». Банк будзе арандаваць два верхнія паверхі, таму высяляюцца і многія іншыя арандатары.

Адзін з нямногіх кінатэатраў Мінска, які не ўваходзіў у дзяржаўную сістэму «Мінсквідэапраката», вылучаўся высокімі цэнамі на білеты. Нягледзячы на тое, што якасць 3D-выявы ў ім лічылася найлепшай у горадзе, кінатэатр не вытрымаў канкурэнцыі.

**ЯМ**

**Здароўе**

## Холадна — сядзіце дома

Медыкі раяць людзям з праблемамі сэрца і сасудаў **перачакаць** маразы **ў кватэры**.

Кардыёлагі заклікаюць мінчукоў з хваробамі сэрца і сасудаў у моцныя маразы заставацца дома, каб пазбегнуць прыступу стэнакардыі (кіслароднай недастатковасці). «Пры тэмпературы ніжэй за мінус 20 градусаў людзям, якія пакутуюць на сардэчна-сасудзістыя захворванні, на вуліцу пажадана не выходзіць, бо гэта можа пацягнуць за сабой спазм сасудаў каранарных артэрый», — адзначыла загадчыца 3-га кардыядыспансернага аддзялення Гарадскога кардыялагічнага цэнтра Інэса Яфрэмава.

Пенсіянеры (напрыклад, з ішэмічнай хваробай сэрца або пасля перанесенага інфаркту міякарду) павінны трымацца парадаў доктара.

А тым, хто па розных прычынах вымушаны пакідаць межы кватэры (будынка), лекар рэкамендуе «імгненна не выходзіць з цёплага памяшкання на мароз, а крыху пастаяць у тамбуры, каб арганізм змог адаптавацца».

З сабой трэба абавязкова ўзяць нітрагліцэрын ці валідол.

**«Мінск-Навіны»**

Качкам, што засталіся зімаваць, цяжка даюцца сёлетнія маразы.



PHOTO BYMEDIA.NET



Упершыню за трыццаць гадоў замерзла Чорнае мора. Да 15 лютага ўкраінскія парты будуць закрытымі.




Сямнаццаць сяброў ліберальнай партыі Славакіі «Свабода і салідарнасць» вырашылі змагацца супраць дэпутацкай недатыкальнасці не толькі справай, але і целам. Дэпутаты раздзеліся, прыкрыўшыся толькі плакатам: «Хай парламентары адмовяцца ад свайго імунітэту».




У гіпермаркеце «Карона» прадаецца чарэшня па 729 900 рублёў за кілаграм. Прывезлі з Аўстраліі.

## Анекдоты

* * *

Сядзіць варона на дрэве, у дзюбе — сыр. Знізу бяжыць лісіца.

– Варона, ты пойдзеш на выбары?

– Не!

Сыр выпаў, лісіца збегла з ім. Варона сядзіць і думае: «А калі б сказала «так», хіба б нешта змянілася?»

* * *

Чым пчолы адрозніваюцца ад беларусаў? У пчолаў — выбары маткі, а ў беларусаў — выбары бацькі.

* * *

Пытанне ашмянскаму радыё: ці абвесціць Колю вымову за тое, што ён замест школы тыдзень на лыжах катаўся разам з татам?

— Не, бо разам з Колем і ягоным бацькам у Сочы адправіліся ў камандзіроўку і настаўнікі Мікалая Аляксандравіча.

* * *

Аднаму хлопчыку бракавала грошай, каб купіць плэер. Ён проста запамінаў музыку і слухаў яе ў галаве.

* * *

Я валодаю асаблівым майстэрствам. Я магу адчыніць шафу, пакласці рэчы і зачыніць дзверцы раней, чым яны пачнуць вывальвацца адтуль.

* * *

Коля пытае ў бацькі:

– Тата, адкуль бяруцца дзеці?

– Эээмм... А хочаш чаю с малінавым варэннем?

## «НН» сто гадоў з вамі

**Антанёнкі, Горацкі павет.** Чаго не дачакаешся ад п'яніцы? Селянін адзін у нашай вёсцы, прапіўшы жывёлу, апраткі і зямлю, стаў дабірацца да дзяцей. Чарод дайшоў да двухгадовага хлопчыка, за каторага просіць 8 рублёў!

**«НН». №5. 1912.**

**Сярэдні беларускі заробак склаў 100,7 даляра.** Найбольшыя сярэднія заробкі былі ў банкаўскіх службоўцаў (185 даляраў), страхавых агентаў (159), навукоўцаў (141), лётчыкаў (136) і будаўнікоў (116). Найменшыя — у калгаснікаў (48), сацыяльных работнікаў (65), культурнікаў (82), мастакоў (93), настаўнікаў (94). Каб задаволіць свае мінімальныя натуральныя патрэбы, у снежні чалавек мусіў мець даходу не менш за 62,5, а сям'я з чатырох чалавек — не меней за 250 даляраў.

**«НН». №5. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 7.02.2012.
Замова №592.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12